PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (2122) Год XLII Беласток 12 студзеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Дробныя клопаты.* Фота з архіва

Міхал Мінцэвіч

## Гісторыя арлянскай сінагогі

Орля — колішняе мястэчка — павінна ганарыцца сваім мінулым. Тым часам дбайнасць пра помнікі даўніны нагадвае тут выдаляннe зубоў!

На пачатку XVI стагоддзя, у выніку рэпрэсій у краінах Заходняй Еўропы, пачаўся масавы наплыў яўрэяў у Польшчу. Гэты перыяд называюць „залатым стагоддзем" у гісторыі яўрэяў. У той час Польшча была самым вялікім яўрэйскім цэнтрам у свеце.

У Орлі яўрэйская гміна — кагал — узнікла на пераломе XVI і XVII стагоддзяў. Паводле перапісу ад 1616 года было ў мястэчку 17 яўрэйскіх дамоў і першая драўляная бажніца. У 1655 годзе ў Орлі жыло 540 яўрэяў, у 1676 годзе на агульны лік 229 жыхароў было 104 іудзеяў, а ў 1716 годзе — 103. Каля 1754 года жонка Радзівіла прадала яўрэям кальвініцкі збор, які быў перабудаваны на бажніцу, а потым стаў Вялікай Сінагогай — галоўнай бажніцай у кагале. У 1765 г. арлянскі кагал разам з навакольнымі вёскамі налічваў 1358 паслядоўнікаў Майсеевага веравызнання і быў удвая большы за беластоцкі.

Ліберальныя законы і прывілеі стваралі яўрэям спрыяльныя ўмовы для адносна спакойнага і стабільнага жыцця. У 1795 годзе, пасля падзелаў польскай дзяржавы і падзення паўстання Касцюшкі, Падляшша дасталася Прусіі і ў 1796 годзе Орля апынулася ў межах Новаўсходняй Прусіі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай мяняецца юрыдычнае становішча яўрэяў. У 1799 годзе ў Орлі раптоўна ўпала колькасць жыхароў мястэчка. На агульны лік 486 жыхароў былі ўсяго 102 іудзеі. Яўрэі ў хуткіх тэмпах асіміляваліся і раствараліся ў хрысціянскім грамадстве.

У 1807 годзе, у выніку Тыльзіцкага міру, Орля адышла да Расеі. Мястэчка налічвала тады 1586 жыхароў, у ліку якіх былі 1102 іудзеі. На тэрыторыі Каралеўства Польскага пад Расеяй юрыдычнае і эканамічнае становішча яўрэяў стала ўскладняцца. У 1835 годзе былі аб'яўлены „зоны пасялення", якія тысячы яўрэяў заставілі памяняць месцажыхарства. Гэта выклікала напружанне паміж паслядоўнікамі іудаізму і хрысціянства. У 1847 годзе арлянскі кагал налічваў 4436 вернікаў, у 1878 годзе — 1812, а ў 1897 — 2310.

У міжваенны перыяд у кожным кагале Беласточчыны існавалі многія школы і палітычныя арганізацыі, якія выхоўвалі шматлікіх яўрэйскіх актывістаў. Арлянскія яўрэі былі членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, некаторыя дзейнічалі ў Беларускай рабоча-сялянскай грамадзе. Сужыццё праваслаўных, католікаў і іудзеяў у прынцыпе было каралктным. Яўрэі карысталіся шэрагам прывілеяў. Беласточчына была „сэрцам сусветнага яўрэйства", паколькі іудзеі складалі больш за палову жыхароў падляшскіх мястэчак.

У 1921 годзе на лік 1518 жыхароў Орлі яўрэі складалі 1167 чалавек, а ў 1929 годзе ў ліку 3000 мяшчан было 2200 яўрэяў. Пасля 17 верасня 1939 года у Орлі жыло 1450 яўрэяў, а ў 1941 годзе — дзве тысячы. У час нямецкай акупацыі яўрэйскае насельніцтва спачатку было зачынена ў мясцовым гета, пазней перасялена ў гета ў Бельску-Падляшскім, затым перавезена ў лагер смерці ў Траблінцы.

Будынак колішняй сінагогі некальні разоў перабудоўваўся і разбудоўваўся. На пераломе XVIII і XIX стагоддзяў набыў ён класіцыстычны выгляд. Выдзелены былі асобныя залы для жанчын (бабінцы) — пачаткова былі яны драўляныя, але ў палове XIX стагоддзя па абодвух баках сінагогі даставілі мураваныя. У канструкцыі сінагогі пераплятаюцца рэнесансныя архітэктурныя ўзоры (прамавугольная зала, вузкія ўваходы, адсутнасць акон на першым паверсе) з элементамі позняга барока ўнутры бажніцы.

У арлянскай сінагозе прыменены былі двухнефавыя сістэмы, а ў XVII стагоддзі ўзнік г.зв. стыль дзевяціпольны, калі пасярэдзіне залы, на дзявятым полі стаялі чатыры слупы, якія замыкалі біму — узвышша для чытання Торы. Была яна размешчана цэнтральна на восі ўсход-захад і адгароджана невялікім чыгунным плоцікам. Біма і аронгакадэш („каўчэг запавету" — святая

[працяг ☞ 3]

## Рынaчны сацыялізм

Пісьманосцы толькі што разнеслі ўсім уласнікам аўтамабіляў навагоднія падарункі ад Powszechnego Zakładu Ubezpieczeń Spółka Akcyjna. Невядома хто з кім заснаваў гэту суполку, але вядома, што за такой шыльдай схаваўся дзяржаўны манапаліст на рынку страхавання. Раней прэса, радыё, тэлебачанне аб'яўлялі, што PZU жадае, каб абавязковая страхоўка аўтамашын у гэтым годзе ўзрасла на 43 працэнты ад кожнага экіпажа. У абарону аўтамабілістаў і фінансаў дзяржавы малайцавата выступіў прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч і фірма знізіла прапанаваныя страхавыя ўзносы быццам бы на 33 працэнты. Невядома дзеля чаго праводзіўся гэты спектакль. Змаганне за ўладу, а ў выніку, як аказваецца, і за вялікія грошы паасобных палітычных кланаў даўно ўжо перастала смяшыць і ўсё больш напамінае нейкі пануры гратэск.

У снежні 1995 года страхоўка за маю старую машыну маркі „Dacia" вызначаная манапалістам на 1996 г. склала суму 123 злотаў. У снежні 1996 г. на такім самым бланку прапануецца мне заплаціць за гэты сам аўтамабіль 218 злотаў. Пяць разоў я пералічыў гэтае павышэнне страхоўкі і ў ніякі спосаб не выходзіць мне ні 43, ні тым больш 33 працэнты, а толькі 78.

Усялякія ўраднікі з высокіх трыбунаў заяўляюць, што інфляцыя ў 1996 годзе не перавысіла 20 працэнтаў. Паліцыя ў сваю чаргу інфармуе, што дарожных выпадкаў было нават менш на 7 працэнтаў, чым у 1995 г. Адкуль тады гэтая, у сапраўднасці адзіная, як пры сацыялізме, страхавая фірма ўзяла такія тарыфы? Нават калі яе кіраўнічая каста патрабуе мільярдаў на свае зарплаты, не апраўдоўвае гэта павышэння коштаў у 4 разы больш за велічыню інфляцыі. Магчыма, што праз пару гадоў даведаемся пра нейкі крымінальны кантэкст гэтай справы, але ніхто і ніколі не верне грошай, якія мільёны людзей вымушаны цяпер аддаць PZU з увагі на адсутнасць канкурэнцыі.

Зусім свабодна вызначаюцца цэны на электраэнергію, газ, ваду, ацяпленне кватэр. Павышэнне цэн не астаецца найчасцей у ніякай сувязі з коштамі вытворчасці. Вядома толькі, што месячныя зарплаты дырэктараў дзяржаўных прадпрыемстваў, ці старшынь іх наглядных радаў дасягаюць соцень мільёнаў злотаў, незалежна ці фірмы гэтыя прыбытковыя ці не. Рынкачны сацыялізм, у адрозненне ад капіталізму, дае велізарныя грошы тым, якія не ўносяць ніякага ўласнага капіталу і нічым не рызыкуюць. Хіба што, калі будзе пагражаць ім пракурор, калегі „z ukladu" перанясуць іх у іншае, найчасцей не менш прыбыткнае, месца ці схаваюць у гушчарах палітыкі. Такім чынам без фактара канкурэнцыі, рызыкі, асабістай адказнасці і адпаведнага заканадаўства будуецца сістэма, якую некаторыя называюць капіталізмам. Для публікі час ад часу арганізуецца спектакль пра заклапочанасць добрага цара і яго слугаў лёсам простага люду. Але штораз большая частка таго люду хоча проста быць грамадзянамі.

Яўген Мірановіч

# Мы прачыталі

*W Polsce nie ma koalicji bezpiecznych. Wystarczy, że dwie partie osiągną jakieś porozumienie, a efektem jest natychmiast zamęt. Polskie Stronnictwo Ludowe, dzielnie podtrzymując renomę partii obrotowej funkcjonuje ostatnio w dwu zupełnie różnych koalicjach. Do rządzenia, czyli umieszczania swoich ludzi w resortach istniejących i nowo tworzonych koleguje się z Sojuszem Lewicy Demokratycznej. W sprawach programowo-wyborczych zaprzyjaźniło się ostatnio z Unią Pracy. Nowa koalicja stała się elementem nacisku na starą koalicję. W najbliższym czasie w związku z kolejnym podziałem stanowisk nie należy spodziewać się politycznej nudy, jako że polityka polska jest terenem podwyższonego ryzyka sejsmicznego. Wstęp do 1997 r. można uznać za wielce obiecujący.*

*Polityka, nr 51 (1996 r.)*

* * *

*Dosyć popularne są w Stanach Zjednoczonych „Polack jokes" (dowcipy o Polaczkach), które naszych ziomków portretują jako tępych, brudnych, prymitywnych półgłówków.*

*Kurier Poranny, nr 296 (1996 r.)*

* * *

*Услед за доларамі ў Беларусі знікае маргарын. На паліцах магазінаў асталася толькі замежная і па высокіх цэнах „Rama".*

*Звязда, н-р 288 (1996 г.)*

Что поделать! Ворагі народа з'елі гэтым разам маргарын, заўтра чорт ведае што знікне з крамаў — хлеб, малако?

* * *

*Парламент — гэта самастойная галіна ўлады*, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

*Народная газета, н-р 316 (1996 г.)*

Прэзідэнт таксама сказаў, што 24 лістапада 1996 года пачаўся „новы этап беларускай дэмакратыі".

* * *

*Wskaźniki bezrobocia w Polsce są najwyższe w Europie, ale gdy zacząć szukać pracowników dramat gwałtownie blednie. Próba zatrudnienia szwaczki w zagłębiu bezrobocia — Łodzi czy pracownika budowlanego w Warszawie, przypomina poszukiwania Bursztynowej Komnaty.*

*Kurier Poranny, nr 300 (1996 r.)*

* * *

*У Расіі выдаюцца пашпарты новага ўзору. На вокладцы змешчаная выява адноўленага герба Расіі — двухгаловага арла. У адрозненне ад сваіх беларускіх калегаў, расейскія парламентарыі нічога не маюць супраць уласнай гістарычнай сімволікі.*

*Наша слова, н-р 50 (1996 г.)*

Да, товарищи белорусы, русские барины только вам желают жить в советском скансене, а на руководителя прислали вам своего „конюха" — как говорил Владимир Вольфович Жириновский.

* * *

*Profesor Ryszard Bender ogłosił zwolenników liberalizacji ustawy antyaborcyjnej hitlerowcami i zabójcami. W podobnym klimacie porusza się bardziej zawzięta część katolickiej prawicy. W rzeczywistości zabijanie poczętych zakończyło się w Niemczech po dojściu Hitlera do władzy. Hitlerowcy swoje rządy rozpoczęli od zakazu aborcji, nazywając ją aktem sabotażu przeciw przyszłości rasowej Niemiec. Hasłem nazistów było „przywrócenie rodzinie należnego jej miejsca". Tak więc profesor Bender trafnie nawiązuje do tradycji hitlerowskiej, ale inaczej niż mu się zdaje. Sięga do jej dziedzictwa i spuścizny.*

*Wprost, nr 51 (1996 r.)*

* * *

*Długowłosa i namiętna, ruda i dzika 19-letnia seks-bomba — zaprasza na erotyczną ucztę konesera.*

*

*Młoda 20-letnia atrakcyjna i długowłosa z mężem pragnie poznać Panią, która chce spróbować seksu we troje.*

*

*Ładne dziewczę po 30 — pragnie i poszukuje partnera.*

*

*Księgowa na rencie pozna biznesmena z Pragi, Brna lub Warszawy.*

*

*Mam dopiero 60 lat. Poznam kawalera bez nałogów.*

*

*Mam 21 lat. Lubię seks. Poznam Pana w celu miłego spędzenia czasu.*

*

*Panie z Ukrainy pragną poznać Panów z Polski lub Niemiec.*

*

*Wolna szatynka, dobrze zbudowana z temperamentem zaprosi bogatych Panów do Wołomina.*

*

*Panią, która może finansować pana, pozna sympatyczny 26-latek. Wiek i stan cywilny bez znaczenia.*

*

*Żywiołowy i inteligentny 35-latek z klasą — pozna zaniedbaną żonę celem namiętnych igraszek.*

*Matrymonialno-Towarzyski Kontakt, nr 12 (1996 r.)*

# З мінулага тыдня

**Паспяховае развіццё польска-расейскіх адносін**, у тым ліку падсумаванне і ацэнка здарэнняў 1996 года, былі тэмай перамоў новага польскага пасла ў Маскве **Анджэя Залуцкага** з міністрам замежных спраў Расеі **Яўгеніем Прымаковым**. У мінулым годзе з афіцыйнымі візітамі ў Расеі пабывалі прэзідэнт **Аляксандр Квасьнеўскі** і прэм'ер-міністр **Владзімеж Цімашэвіч**. Анджэй Залуцкі, які стаў паслом Польшчы ў Расеі два месяцы таму, чакае магчымасці ўручэння прэзідэнту **Барысу Ельцыну** вярыцельных грамат. Паведаміў ён, што ў ходзе перамоў закраналіся пытанні ліміту лоўлі рыб польскімі суднамі на Ахоцкім моры. У гэтай справе перадаў ён пісьмо **Дарыюша Расаці**, у якім міністр замежных спраў Польшчы прапануе вызначыць гадавую квоту лоўлі мінтая польскімі рыбакамі на 120 тысяч тон. Расейскі бок згаджаецца пакуль што на 100 тысяч тон. Пасол растлумачыў, што праблема заключаецца не ў велічыні квоты, але ў вызначэнні месц лоўлі для польскіх суднаў на Ахоцкім моры.

**Кіраўнікі мытных службаў Польшчы і Беларусі** падпісалі ў Гарадку пагадненне да заключанай у 1995 годзе дамовы аб мытным супрацоўніцтве абодвух дзяржаў. Пагадненне называе метады перадачы інфармацыі наконт, між іншым, змяненняў у мытных законах. Дакумент удакладняе таксама метады супрацоўніцтва ў барацьбе з мытнай, гранічнай і валютнай злачыннасцю.

**У Бяброўніках** здадзены ў карыстанне сучасны кантрольна-прапускны пункт для грузавых аўтамашын. Цяпер польскія мытнікі праводзяць кантроль супольна з беларускімі калегамі. Будову гранічнага комплексу ў Баброўніках фінансавала Ваяводская ўправа са сваіх сродкаў і рэзерваў Управы Рады Міністраў. Кошт інвестыцыі — 21 млн. зл.

**50-годдзе** існавання на Заходнім Прымор'і адзначала **Праваслаўная царква**. З гэтай нагоды ў Свята-Мікалаеўскім прыходзе ў Шчэціне літургію служыў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы **Васілій**. Шчэцінскі прыход налічвае каля тысячы вернікаў, а ў Шчэцінскім ваяводстве пражывае каля 5 тысяч праваслаўных. Першымі прыхаджанамі былі рэпатрыянты з Усходу, ахвяры сталінскіх рэпрэсій і асобы, якія вярталіся з прымусовых работ у Нямеччыне і з гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагераў.

**Група скаўтаў** з Саюза гарцэраў РП у Аполі выязджала ў Беларусь з калядными гасцінцамі — цацкамі і ласункамі. Супольна з сябрамі з Варшавы сустрэліся яны ў парафіяльных дамах і польскіх клубах у Гродне, Лідзе і Навагрудку з мясцовымі палякамі, якім паказалі батлейкі, спектаклі для дзяцей і феерверкі.

**Паляўнічыя з Заходняй Еўропы** плацяць амаль паўтара мільёна злотаў у год за ўдзел у г.зв. валютных паляваннях у 44 спецыяльных паляўнічых акругах, якія належаць 18 надлясніцтвам Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў. Прыдбаныя такім чынам грошы выкарыстоўваюцца для аховы лясоў, забеспячэння палеткаў ад лясных звяроў і выплаты кампенсацый сялянам. **Рышард Яцковяк** з паляўнічага бюро Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў паведаміў, што валютнымі паляваннямі карыстаюцца галоўным чынам немцы і швейцарцы, якія аддаюць перавагу Белавежскай пушчы.

**У беластоцкім ЗАГСе** ў апошнім тыдні снежня мінулага года павянчалася 30 пар. Аднак ніводная пара не пажадала распісацца ў апошні дзень года — на Сільвестра.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Як калісьці зімою малацілі** — піша Міхал Мінцэвіч.
- **Пра непісьменнасць і нацыяналізм рэдактараў „Нівы" і беларускіх дзеячаў у пасляваенны перыяд** — піша Мікалай Капчук.

# Весткі з Беларусі

**Суд над Адамовічам**

У Віцебску пачаўся працэс па сумнавядомай справе Славаміра Адамовіча. Ён абвінавачаны па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса, у тым ліку і за „призывы к совершению покушения в отношении высшего должностного лица РБ"; гэтую крамолу пракуроры ўбачылі ў ягоным вершы „Убей президента", які быў надрукаваны ў віцебскай газеце „Выбар". Разам з ім судзяць таксама Барыса Хаманду (рэдактара газеты „Выбар") і Уладзіміра Плешчанку (карэспандэнта гэтага выдання).

**Тулееў за аб'яднанне**

Расейскі міністр па справах супрацоўніцтва з краінамі СНД Аман Тулееў лічыць, што ўзніклі ўжо адпаведныя ўмовы для аб'яднання Расеі і Беларусі. Расея павінна даць адназначны адказ на прапанову прэзідэнта Беларусі, — заявіў А. Тулееў. Сам Аляксандр Лукашэнка выступіў з прапановай склікаць у студзені 1997 г. супольнае пасяджэнне парламентаў абодвух дзяржаў, якія маглі б прыняць рашэнне аб стварэнні канфедэрацыі або уніі.

**Антырасейскі пікет**

Гадзінны пікет перад пасольствам Расеі ў Менску адбыўся 23 снежня 1996 г. Яго арганізатарам выступіў Беларускі народны фронт, які абвінавачвае розныя колы Расеі ў спрыянні планам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі наконт аб'яднання абодвух дзяржаў.

**Семінар апазіцыянераў**

У семінары ў справе неабходнасці вылучэння новых лідэраў у грамадска-палітычным жыцці Беларусі і захавання прававой дзяржавы ўдзельнічала каля трыццаці беларускіх юрыстаў, палітыкаў і журналістаў з незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Семінар праходзіў у прафілакторыі „Здароўе" пад Гроднам, а яго арганізатарамі выступілі Цэнтр міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва з Вашынгтона і Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, які ўжо чатыры гады дзейнічае ў Менску. Дэпутат былога Вярхоўнага Савета Сямён Домаш лічыць, што апазіцыянеры павінны распрацаваць метады, якія дазволілі б ім дайсці да грамадства з прапановамі дэмакратычных рэформ.

**Пейджэры медыкам**

У бальніцы № 7 горада Менска амерыканская кампанія „Матарола" запрэзентавала медыкам унікальную пейджынгавую сувязь, якая ўжо існуе ў вядучых клініках Еўропы. Цяпер любы спецыяліст бальніцы па лічбаваму пейджэру можа быць апавешчаны аб неабходнасці быць у зададзеным месцы. Сувязь „Маторолы" дасць магчымасць медыкам хутка рэагаваць у неардынарных сітуацыях.

**Спартсменка года**

55 беларускіх журналістаў, якія асвятляюць спартыўную тэматыку, прынялі ўдзел у навагоднім апытанні наконт вызначэння лепшага спартсмена мінулага года. Упершыню за апошні час перавага першага нумара над усімі астатнімі была вельмі значная. Лепшай спартсменкай Беларусі ў 1996 годзе прызнана адзіная алімпійская чэмпіёнка Кацярына Хадатовіч — прадстаўніца акадэмічнага веславання.

**Міласэрная акцыя**

Напярэдадні новага года Гарадскі савет жанчын Салігорска арганізаваў акцыю міласэрнасці. Ён звярнуўся да ўсіх гараджан з просьбай дапамагчы тым, каму зараз асабліва цяжка — адзінокім, састарэлым, мнагадзетным сем'ям, інвалідам. У мясцовым Доме саветаў з гэтай мэтай створаны цэнтр міласэрнасці, дзе наладжаны прыём былых ва ўжыванні, але яшчэ зусім нядрэнных рэчаў — адзення, абутку, кніг, цацак, якія потым будуць раздадзены бедным.

**Экалагічныя ёлачкі**

Зграбныя і пушыстыя беларускія ёлачкі сталі жаданымі госцямі на навагоднім свяце ў многіх малдаўскіх і узбекскіх сем'ях. Работнікі Лепельскага лесгаса адправілі ў гэтыя краіны тры вагоны і чатыры вялікагрузныя фуры лясных прыгажунь. Амаль тры тысячы ёлак стандартных памераў ад 1 да 2 м заказалі гандлёвыя прадпрыемствы Менска. Лепельскія ёлачкі бездакорныя ў экалагічным плане. Іх нарыхтоўвалі ў самых чыстых дзялянках навакольных лясоў.

# Гісторыя арлянскай сінагогі

[1 ☞ працяг]
алтарная шафа) стваралі адну, непадзельную цэласць інтэр'ера бажніцы. У „каўчэгу запавету", які знаходзіўся на ўсходнім баку сінагогі, захоўваліся скруткі Торы. Быў ён завершаны разьбой з выявай каменных скрыжаляў з дзесяццю запаведзямі. Арон-гакадэш быў багата ўпрыгожаны шматлікімі дэталямі і сімваламі лісоў, кароны, арла, левіяфана і іншых біблейных звяроў. Месца, у якім захоўваліся пергаментныя скруткі Торы, заслонена было багата ўпрыгожанай заслонкай (парохетам).

Інтэр'ер сінагогі асвятляўся нізка завешанымі фантастычных кшталтаў лямпамі. Настрой рэлігійнай узвышанасці ўзмацняла святло, якое ўлівалася з высока размешчаных паўкруглых акон, калі ніжняя частка сінагогі патанала ў змрочнасці. Бляску і пышнасці малітвам прыдавалі літургічныя прадметы і начынне з каштоўных металаў, упрыгожаныя такімі ж камянямі.

У галоўнай зале прабывалі толькі мужчыны. Жанчыны збіраліся ў бабінцах — бакавых прыбудовах. На фасадзе Вялікай Сінагогі ў Орлі відней надпіс: „О, як жа страшнае гэтае месца! Гэта не што іншае, толькі дом Божы" (Быццё, 28: 17). Уваход у заходняй сцяне асветлены быў двума ліхтарыкамі. На пярэднім франтоне змешчана была аграмадная зорка Давіда.

Арлянскую Вялікую Сінагогу акалялі яшчэ дзве меншыя драўляныя бажніцы, дом рабіна і яўрэйская лазня. Сінагога стаяла непадалёк рынку, пры якім было многа яўрэйскіх дамоў, крамаў і пляцоў. Згодна з рэлігійнымі законамі была яна зніжана ў параўнанні з узроўнем вуліцы, паколькі ў 130 псалме сказана: „З глыбіні клічу Цябе, Госпадзе". Адчынялася яна толькі па суботах і важнейшых рэлігійных ды дзяржаўных святах. Пры царах маліліся ў ёй за поспехі чарговых цароў, а ў міжваенны перыяд падчас святкавання 3 Мая, 11 Лістапада спраўляліся ўрачыстыя набажэнствы за поспехі Маршалка і Прэзідэнта Рэчы Паспалітай. 18 мая 1907 года царкву ў Орлі наведаў епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Міхал.



Сінагога ў 1939 годзе з домам рабіна і школай.


Сінагога ў 1996 годзе.

Хлебам-соллю віталі яго таксама і арлянскія яўрэі.

Вялікая Сінагога была таксама месцам вывучэння Свяшчэннага Пісання і адміністрацыйным цэнтрам кагалу. Побач галоўнай бажніцы знаходзіўся вялікі стары яўрэйскі могільнік (сёння яго ўжо няма). Каменныя надмагільныя пліты падчас акупацыі немцы скарысталі для будовы дарог. На новым могільніку да нашага часу захавалася яшчэ 50 пліт.

18 мая 1938 года вялікі пажар Орлі знішчыў палову мястэчка — згарэла 540 будынкаў, у тым ліку дзве драўляныя бажніцы, дах і часткова сцены Вялікай Сінагогі, якую хутка адбудавалі. Апошнім рабінам у Орлі быў Эля Гальперн.

У час гітлераўскай акупацыі немцы зруйнавалі сінагогу, а на даху змясцілі „гняздо" — назіральны пункт. Пасля 1945 года былі разабраны бакавыя бабінцы. З часам будынак лёг у руінах. З браку фінансавых сродкаў не ажыццявілася задуманая ў 1950-х гадах канцэпцыя адаптаваць будынак сінагогі на дом культуры. Шмат гадоў выкарыстоўваўся ён як склад.

У 1980-х гадах на сродкі Ваяводскага рэстаўратара помнікаў і Ваяводскага фонду культуры быў праведзены капітальны рамонт даху, фасада і перакрыццяў, зроблены каналы цэнтральнага ацяплення, адбудаваны бакавыя бабінцы, пастаўлены медныя вадасцёкавыя трубы ды аконная і дзвярная сталярка.

За апошнія два гады Управа гміны ў Орлі пачала ставіць агароджу, але ўжо некаторыя слупы знішчаны. Завяршэння гэтых работ пакуль што не відаць. Гмінныя ўлады адмовіліся пераняць будынак сінагогі на сваю ўласнасць і цяпер належыць ён дзяржаўнай казне. Хаця рамонт не быў даведзены да канца, рыштаванні разабралі. Частковыя рамонты не спынілі працэсу разбурэння. Аграмадны будынак сінагогі ўсё чакае ўладальніка або добрага гаспадара, які верне яму даўнюю прыгажосць і выкарыстае ў адпаведны спосаб. Неадкладна трэба агарадзіць яўрэйскі могільнік, каб забяспечыць астаткі надмагільных пліт і ўшанаваць памяць пахаваных там людзей.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Як калісь калядавалі

**Расказаць пра гэта папрасіў я Мікалая СУХАДОЛУ з вёскі Галубы (афіцыйная назва — Падляўкоўе), што ў Нараўчанскай гміне.**

Каб ісці калядаваць, трэба было мець гвязду. Рабілі мы яе самі. Крыху толькі памагаў нам стары Альяш, бо ж самі, малыя, ніколі гэтай работы не бачыўшы, не зрабілі б. Бралі абічайку — кружок ад старога рэшата, а рагі рабілі з сасны, з абалоні. Тую абалонь калолі на шпанкі, таўшчыні мо такое, як палец. Абрэзвалі на *кантовыя*, а пасля калолі надвое і на канцах зарэзвалі, бо інакш трэба было б збіваць *гвоздзямі*; а так — то ўжо не трэба, толькі звязаць тыя зубы. Абічайку размерылі так, каб нам сем *рог* выйшла (другія рабілі на восем і больш). Тады ў абічайцы пасярэдзіне выверчвалі дзірачкі, устаўлялі рагі, засоўвалі іх пад абічайкай тоненькімі *гвоздзікамі*, каб рагі назад не павылазілі. Ну і, калі ўжо рагі былі гатовы, бралі паперу, дванаццаць колераў было, і абклейвалі. І ліцо на чатыры часці размервалі і чатыры клінкі з паперы вырэзвалі: у нас былі чырвоны, зялёны, жоўты і яшчэ якісь. Склейвалі затым тыя чатыры клінкі і абклейвалі імі ліцо. На ліцо наклейвалі анёлкаў, карову, каня, птушку. Пасля мазалі паперу алеем, каб блішчала.

А каб звязда круцілася, бралі кусок палкі такое, *штырохкантовую* — выстругвалі на чатыры канты, затым выверчвалі *дзюрку*. Ззаду рабілася *досачка* — *шыракосці* з 7-8 сантыметраў і таўшчыні каля двух і прыбівалася. Бралі кія і ад кія кусок палкі і рабілі з гэтага *кольбу*, зноў зарэзвалі накругла, на палец які або *цаль*, каб у тую дзірку пасавала. І, як усадзіш, то ўжо гвязда круцілася, і зноў закліноўвалі цвіком. Бралі яшчэ кусок палкі, закруглівалі так, як *файку*, закручвалі там *дроцік*, каб свечку там можна было прымацаваць. І ўжо тая свечка магла стаяць на месцы, толькі ліцо круцілася. І ззаду абівалі так, як ліцо, толькі пакідалі *фортачку*, каб доступ да свечкі быў. Бо калі ад вёскі да вёскі ішлі, то свечку гасілі, а ў вёсцы не гасілі. Аднае свечкі хапала нам на нашу вёску і яшчэ на *палавіну* Ахрымоў. Свечкі куплялі ў *склепе*, самі не рабілі, бо воску не было.

А хадзілі *кругом*: на *польскія* Каляды ў Сухадолы, у Бярнацкі Мост і хіба з раз на *станцыю* (наваколле чыгуначнага прыпынку Нараўка — А. В.). А ўжо на *рускія* Каляды, то на *Барначчыну* мала хадзілі, у Сухадолах то хіба раз былі, а так то свае вёскі: Падляўкоўе, Ахрымы, Бачынскіх, Капітаншчыну, Новае Ляўкова, Старое...

А спяваць развучваліся самі: мелі *Багаласнік* і вечарамі збіраліся і так спявалі. Ніхто нас спяваць не вучыў; дзе пачулі, як старыя спяваюць, то і мы так.

Хадзілі толькі хлопцы; дзяўчаты тады не хадзілі — у хаце сядзелі. Гвязду насілі напераменку, але грошы то збіраў адзін. Шасцёх нас было, усе толькі з нашае вёскі; ніхто не заходзіў. З другіх вёсак то было па некалькі гвяздаў: са Старога Ляўкова то было з пяць, і з Новага, з Ахрымоў то хіба тры было. Але нас затое *найлепі* бралі! Можа найпрыгажэй спявалі... Падыходзім пад акно і гаворым:

*Слава Господу Ісусу Хрысту, ныне Хрыстос радзіўся, увесь свет возвеселіўся. Мы прыйшлі Хрыста славіць і вас з праздніком паздравіць. Пець іль нет?*

І тады зачыналі спяваць. Спявалі пад акном, бо калісь дадому не бралі; не так, як цяпер: пытаў, не пытаў, толькі ўлез у дзверы і *малаткуе*. Дахаты мала калі запрашалі. От, калі была дзе гасціна, а часам і без гасціны. Не частавалі, толькі ўжо пры саветах, як большыя былі, то далі нам крыху *газу*; о, то вясёлыя мы тады былі. Раз толькі далі нам каўбасу, і раз — пірог. То на другі дзень раніцай Альяшыха смажыла нам тую каўбасу, і пірог той елі. А так, то давалі грошы. Як хадзілі *гароды*, то ім больш каўбасы давалі, бо там хадзілі старэйшыя. Нават хавалі ад іх каўбасу, бо калі пабачылі, што на печы вісіць, то маглі сцягнуць. Патрэбная ім была, бо калі канчалі калядаваць, сядалі выпіваць і закуска была патрэбная... А *гароды* хадзілі без гвязды — з віламі, кацюбою. І чорцік там хадзіў, і *кругь*, і анёл...

Грошы, якіх крыху зарабілі, трымалі: купіш *зэшыта* да школы і... ўсё! Такі заробак быў. А цукерка купіць — дзе там! На *зэшыты* не было б. Не цяперашні час тады быў. Давалі тады па пяць-дзесяць грошаў. Толькі да Звонічкі як зайшлі, то яна адразу дала нам паўтара злота! І зараз булку, каву. І колькі яна там жыла, то мы заўсёды да яе ў Сухадолы хадзілі. Багатая то яна не была, але вельмі гэта ўсё любіла. Але здаралася і так, што ідзеш і бачыш, што агонь — *фук* — і згас; то ўжо і не ішлі пад такую хату.

*Пагода* розная бывала. Былі маразы, калісь большыя, як цяпер, і снегу было, што ледзь прылезеш. Хадзілі ў пасталах, бо ў чым жа ж другім. Накруціў анучаў, закрунуў *аборсамі* і пайшоў; пры саветах толькі ўжо былі нейкія *гумоўцы*, чаравікі. І хварэць не было як; рана прачнешся, і пабег — пабачыць...

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# У Менску — зіма

Ноччу перад Міколай снег засыпаў Менск. У гэтым амаль двухмільённым малоху — *там дзе пыл і бруд* — стала раптам бела і нават неяк цішэй, чым звычайна.

Па нерасчышчаных вуліцах пабрынквалі дратамі тралейбусы, бязгучна рэзалі снежную смятану жалезныя колы трамваяў, пыхкалі чорным дымам цяжкія аўтобусы, памалу сунулі рэдкія легкавушкі (пераважна заходняй вытворчасці). Пешаходы падымалі каўнеры, нацягвалі глыбей на вушы футровыя шапкі і, дыхаючы хмарамі пары, паспешна коўзалі ў вядомым сабе напрамку. Пятнаццаць градусаў ніжэй нуля замарозілі зацікаўленне публічнымі справамі.

— Апошнія тры гады ўсе мы кінуліся ў палітыку, — кажа знаёмы з маладых інтэлектуалаў, — не пісаліся новыя вершы, не было нічога ў тэатры, не ўзнікалі музычныя гурты. Цяпер, калі ўсё прайгранае, зноў ажывае *undergro-und*, зноў паяўляюцца цікавыя артыстычныя з'явы.

Якраз у пачатку марозу маскоўская газета „Известия" напісала, што ў Беларусі будуць уводзіць талоны на асноўныя прадукты харчавання. Журналісты афіцыйнай прэсы, радыё і тэлебачання сталі на галаве, каб даказаць, што беларускім гарадам не пагражае голад. Заклапочаныя галовы з тэлеэкрана гаварылі: *Мы то праўду добра ведаем, але што зрабіць з несумленнымі журналістамі, якія абшмароўваюць нас па-за межамі?*

Каб супрацьставіцца мэтанакіраванай хлусні *безответственных лиц*, Менск выступіў з ініцыятывай распрацоўкі новай інфармацыйнай палітыкі на абшары СНД. Гледзячы на *аб'ектыўныя* праграмы Беларускага тэлебачання, сябры-палякі — першы раз у Менску — хапаліся за галовы: *Няўжо такое магчымае!?* Дарма было чакаць вестак з працэсу супраць паэта Славаміра Адамовіча, — ва ўсім дэмакратычным свеце быў бы гэта першы *ньюс*, — якому за верш „Убей прэзидента" (*заклік да тэрарыстычнага акту!*) пагражае ад васьмі да пятнаццаці гадоў турмы. Тым часам вядучы з экрана пытаў: *Марылі мы пра Захад? Зайздросцілі Захаду? Вось ён і прыйшоў.* І тут паказваюць Камароўскі рынак у гурбах снегу. Старыя мажныя кабеты ў завязаных пад барадой цёплых хустках напрошваюцца ў прахожых сваімі немудрагелістымі таварамі: салам, грыбамі, часнаком, гарэлкай. У якасці каментатара выступае галоўны рэдактар „Советской Белоруссии" (таксама яшчэ кур'ёз) і, пакурваючы люльку, разважае пра пагрозы свабоднага рынку для *необеспеченного общества*.

Парадак, звычайна, трэба пачынаць з сябе. З канцом года была зачынена „Культура", літаратурна-філасофскі месячнік „Крыніца" злучаны ў адно з тыднёвікам „Літаратура і мастацтва", а з дзіцячага часопіса „Бярозка" — пагнана кіраўніцтва. Гэта, так сказаць, нацыянальныя выданні, фінансаваныя дзяржавай. Але і ў незалежных — нявесела. „Свабода" ўсё больш становіцца падобнай на нейкую бястварую беларуска-рускую „Народную газету", а ў „Нашай Ніве" няма грошай; яе рэдактары паехалі на калядна-навагодні час у Вільню мазгаваць, што далей.

Не вельмі ведаюць, што далей таксама і палітыкі, якія „не давёўшы да канца ні адно інтэграцыйнае пачынанне, — як напісаў у „Звяздзе" Валянцін Жданко, — вылучаюць усё новыя ініцыятывы". Маецца тут на думцы, вядома, інтэграцыя не з кім іншым, а з Расеяй. „У нашай краіне прачнёмся заўтра?" — пытаецца той самы публіцыст, аналізуючы чарговыя бесталковыя праекты. Сумненняў не маюць многія расейскія журналісты, якім падтаквае беларуская рускамоўная ліберальная прэса („Имя", „Белорусская деловая газета"): вясною Рэспубліка Беларусь стане часткай Расейскай Федэрацыі. У Менску гавораць нават пра тры рэферэндумы: першы ўдарыў па нацыянальнай ідэі, другі — па дэмакратыі, а трэці, будучы — прыкончыць дзяржаву.

Людзей, аднак, больш за гэтую перспектыву хвалююць цяперашнія, дробныя пакуль, перабоі з харчамі ў крамах. Сям-там выдзялялі хлеб па буханцы на асобу, у некаторых месцах зніклі малочныя прадукты...

У менскіх кватэрах у снежні было цёпла. Чаго не скажаш пра беларускія рэйсавыя аўтобусы. Кожнаму, хто плануе падарожжа па Беларусі на аўтобусе зімовай парою, не пашкодзіць апрануцца так, як на санкі. А каб без стрэсу пераехаць — за восем гадзін! — мяжу, найлепш напіцца.

**Мікола Ваўранюк**

# Зноў пра маёра Гелду

У красавіку 1996 года я надрукаваў у „Ніве" артыкул пра маёра Беларускай краёвай абароны Івана Гелду. Як і спадзяваўся, неўзабаве адгукнуліся людзі, якія добра яго ведалі. Іх успаміны дапамаглі мне аднавіць некаторыя невядомыя старонкі ягонай біяграфіі.

І. Гелда, праўдападобна, паходзіў з Сакольшчыны. Менавіта ў тых мясцінах ён і кіраваў Грамадой, за што і атрымаў, па прысуду польскага суда, некалькі гадоў турмы. У верасні 1939 г. Гелда, сапраўды, уцёк на тэрыторыю, акупаваную немцамі — гэта выратавала яго ад лёсу іншых былых „балахоўцаў", загінуўшых ад катаў НКУС.

Ужо летам 1941 года Іван Гелда вярнуўся ў Беласток, спрабаваў нешта зрабіць дзеля Бацькаўшчыны. Аднак, ягоныя памкненні знаходзілі перашкоду з боку нямецкіх уладаў ды, наогул, нямецкай акупацыйнай палітыкі. У 1943 г. Гелда камандаваў беларускім батальёнам у ранзе капітана. Увосень 1943 года з Украіны прыехаў у Беласток батальён, у якім былі людзі розных нацыянальнасцей, але найбольш — украінцаў. Каля 200 чалавек пасяліліся ў адным будынку з беларусамі, а рэшта — на другім баку вуліцы. Неўзабаве ўкраінцы змянілі чорную уніформу на такую, у якой былі беларусы. І цяпер іх нельга было адрозніць ад падначаленых Гелды. Украінцы дзейнічалі супраць партызанаў невялікімі атрадамі па 30-50 чалавек у кожным. Хутка Гелда даведаўся, што яны рабуюць беларускіх сялян і здзяйсняюць іншыя злачынствы. Тады ён збірае беларускі актыў на нелегальную нараду, на якой было пастаноўлена прасіць немцаў, каб да кожнага ўкраінскага атрада далучаць двух беларусаў, што дало б магчымасць мець інфармацыю пра іх дзейнасць. Такі дазвол быў атрыманы і украінцы былі вымушаны спыніць рабаўніцтва.

У маі 1944 года гестапа правяло арышты ў беларускім батальёне. За краты трапіла каля 20 чалавек, у тым ліку Гелда, Мікола Грыцук, Алесь Асяцімскі, Смактуновіч, Матыс, Нігірэвіч. Арыштаваныя абвінавачваліся ў прыналежнасці да падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі (БНП), якая па звестках гестапа пашырыла сваю дзейнасць у батальёне. Аднак ніхто з беларусаў не прызнаўся ў сяброўстве ў БНП. Арыштаваныя гаварылі толькі, што першы раз чуюць пра гэтую арганізацыю. Тым не менш, ім пагражаў расстрэл і толькі набліжэнне фронту выратавала беларускіх жаўнераў.

Дзесьці на пачатку ліпеня (па іншых звестках — 22-25 чэрвеня) 1944 г. немцы пачалі ліквідаваць турмы. Гелда і яго людзі былі вызвалены.

Адпачыўшы некалькі дзён, І. Гелда з'явіўся ў батальён, якім камандаваў у яго адсутнасць Сяргей Матысік, і загадаў усім перабірацца ў Белавежскую пушчу, каб пераўтварыцца ў партызанаў. Аднак ягоны загад не быў выкананы Матысікам, які сабраў людзей і сказаў, што ён асабіста супраць партызаншчыны. Аднак паабяцаў, што кожны жадаючы ісці ў лес будзе добра забяспечаны зброяй і амуніцыяй. Каля 35% асабовага складу батальёна пайшлі ў Белавежскую пушчу. Рэшта, на чале з Матысікам, выехала ў Ломжу, дзе яшчэ каля пятнаццаці чалавек былі прыцягнены Алесем Асяцімскім і Міколам Грыцуком у беларускую антысавецкую партызанку. Сам Сяргей Матысік (выпускнік Варшаўскай політэхнікі, выдатна валодаў нямецкай і французскай мовамі і трохі англійскай) раіў усім адступаць, бо нельга было спадзявацца на скорую вайну Захаду з СССР, але і не перашкаджаў тым хлопцам, якія вырашылі змагацца з бальшавікамі.

Дзякуючы намаганням Матысіка, у лістападзе 1944 г. рэшту беларускага батальёна немцы згадзіліся перакінуць праз Данію ў Нарвегію. Перад адпраўкай, у Берліне сваіх былых падначаленых наведаў маёр Гелда, у гэты час афіцэр дэсантнага батальёна „Дальвіц". Ён ужо вырашыў, што прысвеціць сваё жыццё ўзброенай барацьбе за незалежнасць Беларусі ды рыхтаваўся да дэсанту на Бацькаўшчыну. Гелда крытыкаваў Матысіка за тое, што ён „уцякае ад змагання за Беларусь". На гэта той адказаў: „Загубіць моладзь мне не дазваляе сумленне, яе трэба зберагчы, яна можа быць вельмі патрэбная ў будучыні". На гэтым яны і разышліся.

Удалося ўстанавіць, што маёра Івана Гелду судзілі ў Менску. Ён праходзіў па адной справе з кіраўнікамі БНП Родзькам, Гінько, Каралём і іншымі. Родзька і Гелда атрымалі смяротныя прысуды.

**Сяргей Ёрш**

# Нацмены і міністры

20 снежня мінулага года ў Міністэрстве культуры і мастацтва адбылася сустрэча кіраўніцтва гэтага ведамства са старшынямі арганізацый і рэдактарамі часопісаў нацыянальных меншасцей. Традыцыйна прывітаў гасцей намеснік міністра Міхал Ягела, падзякаваў усім г.зв. меншасцям „za wzbogacanie kultury Najjaśniejszej Rzeczypospolitej" і расказаў пра дапамогу дзяржавы грамадзянам няпольскай нацыянальнасці. Міністр Здзіслаў Падканскі назваў мінулы год вельмі ўдалым для ўсялякіх форм культурнай дзейнасці. Міністэрства — паводле міністра — рэалізавала больш праектаў, чым у мінулых гадах. Пра зацікаўленне дзяржавы развіццём інтэлектуальнай творчасці нацыянальных меншасцей сведчыць факт прысвоення Сакрату Яновічу Ордэна Адраджэння Польшчы. Канчаючы выступленне, міністр Падканскі працытаваў словы старажытнага рымскага філосафа Сенекі: „Кожны народ існуе датуль, пакуль шануе сваё мінулае". Толькі ў які спосаб, напрыклад, беларусам пазнаць сваё мінулае, калі ўжо некалькі дзесяткаў гадоў няма ў нас ніводнае свае школы?

Прадстаўнік Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Ежы Завіша сказаў, што ў гэтым годзе бюджэт ведамства, якое ён прадстаўляе, павышаны на 36 працэнтаў. Не абазначае гэта, што ўсе атрымаюць у такой ступені павышаную датацыю. Некаторыя арганізацыі, зразумела „заслужаныя для культуры", атрымаюць нашмат больш за 36 працэнтаў, а іншыя — менш. Пакуль невядома, хто і якую атрымае датацыю; віцэ-міністр Ягела заявіў толькі, што мільярд злотаў адвэдзіцца ў 1997 годзе на Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Яцэк Курань праінфармаваў прысутных, што ў рамках рэфармавання цэнтральнай адміністрацыі ствараецца ўстанова ўпаўнаважанага прэм'ер-міністра па справах нацыянальных меншасцей і што на гэты пост прызначаны Міхал Ягела.

У ходзе дыскусіі Іван Кірызюк, дзеяч Саюза ўкраінцаў Падляшша (былы карэспандэнт „Нівы") заклікаў кіраўніцтва Міністэрства культуры стварыць штаты для работнікаў, якія заняліся б ратаваннем украінскай культуры на Падляшшы. Юрка Трачук, былы рэдактар штоквартальніка „Над Бугом і Нарвою", расказаўшы спачатку пра гісторыю часопіса, яго вялікія дасягненні, папулярнасць сярод чытачоў у краіне і за мяжою, дамагаўся сродкаў на камп'ютэры, тэлефоны і факсы. Яўген Чыквін, рэдактар „Przeglądu Prawosławnego" дайшоў да вываду, што падзелы сярод беларусаў з'яўляюцца вынікам палітыкі ранейшага кіраўніцтва Бюро па справах нацыянальных меншасцей. Рэдактар выказаў таксама здзіўленне, што некаторыя беларускія часопісы, нягледзячы на тое, што пішуць, атрымоўваюць датацыю з Міністэрства культуры. Можна толькі здагадвацца, якія часопісы меў ён на ўвазе і здзіўляцца, што гаварыў гэта рэдактар часопіса, які таксама карыстаецца дзяржаўнымі датацыямі.

З выступлення старшыні Славацкага грамадска-культурнага таварыства Юзэфа Цёнгвы вынікала, што на славацка-польскім памежжы сітуацыя нашмат горшая, чым на польска-беларускім. Нават прапанова ўключыць славака ў нагладную раду нейкага скансэна выклікала рашучыя пратэсты палякаў, а войты дамагаюцца „ачысціць" гмінныя бібліятэкі ад кніжак на славацкай мове. Славакі таксама абвінавачваюцца ў імкненні далучыць частку Польшчы да суседняй краіны — Славакіі.

Выступленне Дзітмара Брэмера з Нямецкай супольнасці „Яднанне і будучыня" паказала, якія вострыя падзелы выступаюць сярод тае меншасці. Брэмер абвінаваціў іншыя арганізацыі, што ў сваёй дзейнасці рэалізоўць палітыку нямецкіх рэвізіяністаў. Эгард Бастэк, рэдактар аднаго з некалькіх нямецкіх часопісаў, выступленне свайго суродзіча назваў правакацыяй і пратэставаў супраць абражання немцаў — грамадзян Польшчы.

Усе, што хацелі публічна паплакаць, мелі для гэтага нагоду. А ў мяне, пасля вяртання ў Беласток, арганізм дамагаўся толькі чаркі моцнай гарэлкі.

**Яўген Мірановіч**

# Беларуская пісьменнасць

З'езд Асацыяцыі беларускіх журналістаў, які прайшоў 21 снежня 1996 г. у Беластоку, меў чыста фармальны характар. Звёўся ён да перавыбараў статутных органаў арганізацыі — Управы Асацыяцыі, Рэвізійнай камісіі і Галоўнага журналісцкага суда.

Манатоннасць спісвання пратаколаў перабіла толькі дыскусія пра месячнік „Часопіс" — Асацыяцыя беларускіх журналістаў з'яўляецца яго фармальным выдаўцом. Самай бліскучай фразай дыскусіі стаў голас сеньёра беларускай публіцыстыкі Мікалая Гайдука:

— Несумненна трэба нам услухвацца ў голас тых, што выдзяляюць грошы.

Журналісты падпісалі пратэст супраць парушэння свабоды слова ў Рэспубліцы Беларусь.

Сапраўднага бляску нудотнаму журналісцкаму зборышчу прыдало завяршэнне конкурсу на рэпартаж „Беларускія пейзажы", які быў аб'яўлены ў чэрвені 1996 г. „Часопісам" і Асацыяцыяй беларускіх журналістаў. Надышло на яго, паводле справаздачы журы, пятнаццаць пісьмовых прац, дзесяць з якіх было дапушчаных да ацэнкі. Пяць прац не ўпісаліся ў жанр. У вылучанай дзесятцы сем прац было на польскай мове і тры па-беларуску.

Ацэнкай рэпартажаў займалася наступнае журы: **Марыян Пілёт** (старшыня; галоўны рэдактар месячніка „Рэгіёны"), **Сакрат Яновіч** (беларускі пісьменнік) і **Юры Хмялеўскі** (сакратар; галоўны рэдактар „Часопіса").

Узнагароды журы прызнала такія:

**першае месца** (1300 зл.): **Міраславу Прандоту** за матэрыял „Drugie życie Prokopiuka";

**другое месца** (900 зл.): **Мікалаю Ваўранюку** за тэкст „Мяккі знак і 15 кілаграмаў макароны";

**два трэція месцы** (па 400 зл.): **Юраму Сульжыку** за „Przystanek na żądanie" і пары аўтараў **Катажыне Тамашэвіч** і **Мацею Халадоўскаму** за рэпартаж „Tu wszystko jest pokręcone".

Уручэнню ўзнагарод спадарожнічалі даволі абшырныя выступленні ўдзельнікаў журы. Марыян Пілёт расказаў пры гэтай нагодзе пра характар свайго месячніка „Рэгіёны" і заахвоціў беларускіх журналістаў-рэпарцёраў, каб у сваёй дзейнасці спрабавалі яны таксама быць кімсьці, што ў англійскай мове называецца словам researcher — даследчык, szperacz. М. Пілёт прызнаўся таксама, што беларуская частка конкурснага матэрыялу выклікала ў яго цяжкасці. Ведаючы рускую мову і чытаючы дасланыя працы, ён адкрыў, што беларуская з'яўляецца цалкам іншай мовай.



*Нудотнае журналісцкае зборышча...*



*Злева: Юры Хмялеўскі, Мар'ян Пілёт і Сакрат Яновіч.*

Погляд Сакрата Яновіча на беларускую мову і пісьменства ў ёй вядомы кожнаму, хто хоць раз чуў Спадара Беларускага Слова ў „публічнай акцыі". Думку сваю ён паўтарыў і на гэты раз. Яе сутнасць такая:

1. Яновічу цяжка дапусціць думку, што хто-небудзь у змозе акуратна звязаць па-беларуску сказ, паставіўшы правільную ў ім пунктуацыю.

2. Аўтарства беларускіх тэкстаў, у якім коскі стаяць на сваім месцы, падсвядома прыпісваюцца Яновічам Яну Максімюку. Жаль да Яна Максімюка за ягоную беларускую пісьменнасць выяўляецца ў іранічных і злёгку прыдзірлівых каментарыях Яновіча пры любой спрыяльнай дзеля гэтага нагодзе.

3. Маючы дачыненне з беларускім і польскім тэкстамі на адну і тую ж тэму, Яновіч ex definitione лічыць горшым гэты першы тэкст.

Юры Хмялеўскі свой погляд на беларускае пісьменства прысутным журналістам не выявіў. Падвёўшы аднак і супаставіўшы пачутае ад М. Пілёта і С. Яновіча, цяжка паўстрымацца ад уражання некаторага непаразумення, якое адбылося ў час уручэння віншавальных грамат пераможцам конкурсу „Беларускія пейзажы". М. Пілёту выпадала б проста не прызнавацца ў слабым веданні той мовы, на якой працы ён ацэньваў. С. Яновічу, хай даруе ён нахабства крытыкі, больш тактоўным было б моцна сціснуць зубы і звычайна пагадзіцца з фактам, што бываюць яшчэ (а можа: ужо) у сусвеце людзі, якія ў змозе акуратна пісаць беларускі тэкст, чымсьці ў нескачонасць выносіць на публічны прысуд літаратурную фігуру ганьбы, мужыцкасці, непісьменнасці і саломы ў чаравіках.

У кожнае беларускае мерапрыемства, якімі светлымі асобамі яно не арганізавалася б — трапляе лыжка дзёгцю. Непаразуменне, пра якое пішу, датычыць беларускага кантэксту конкурсу „Беларускія пейзажы" ды агульнай кваліфікаванасці беларускага матэрыялу ў ім. У час, калі польскія рэпартажы, як і заведзена ў такі ўрачысты момант, узнагароджваліся такім словам, як „майстэрства", „сімфонія", „знакамітая работа", адзіны беларускі ўзнагароджаны рэпартаж так і не дачакаўся аднаго простага і недвухсэнсавага эпітэта. Яго рэцэнзія звялася да публічнай здзіўленасці, што тэкст такі наогул узнік, і да спекуляцыі — як гэта так, што напісаўся ён тым, кім напісаўся. А напісаўся ён нашым рэдакцыйным сябрам Мікалаем Ваўранюком, конкурсны крыптанім „Кіт".

Ты, Мікалай, „мусіць някепскі кіт там уціснуў", што сам Яновіч не паверыў, быццам здольны ты на такую... здольнасць. Прабачце за каламбур.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# Палітык у ліцэі

9 снежня мінулага года ў Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася сустрэча прафесара Адама Даброньскага з вучнямі чацвёртых класаў. Госця суправаджалі войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч і мясцовы радны. Дырэктар ліцэя Яўген Сачко прывітаў прафесара як міністра па справах ветэранаў, гісторыка — выкладчыка Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку і пасла Беластоцкай зямлі ад сялянскай партыі ПСЛ.

Высокі госць спачатку расказаў аб сваім жыццёвым шляху і грамадскай дзейнасці, якія прывялі яго ў парламент і на міністэрскую пасаду. Потым адказваў на пытанні з залы. Удзельнікі сустрэчы пыталі міністра Даброньскага пра перспектывы кааліцыі ПСЛ-СЛД, канкардат, падаткавую сістэму, праблему абортаў. У ходзе гутаркі з моладдзю не абышлося і без гумарыстычнага эпізоду. Гаворачы, што касцельны дом грамадскай апекі каштуе танней, чым дзяржаўны, госць агаварыўся і сказаў, што „лепш аплачваецца весці дом грамадскай апекі, чымся дом публічны". У гэты момант у зале падняўся смех і раздаліся апладысменты.

Сустрэча прайшла на высокім мерытычным узроўні і зацікавіла моладзь. Дырэктар падкрэсліў, што моладзь ставіла госцю цікавыя пытанні, а гэта сведчыць аб добрай зарыентаванасці ліцэістаў у палітычнай сітуацыі ў краіне. На заканчэнне госць заявіў, што неўзабаве адкрыецца ягонае пасольскае бюро ў Гайнаўцы, затым падарыў кніжкі школьнай бібліятэцы і ўзнагародзіў двое найбольш актыўных удзельнікаў сустрэчы кніжкамі з аўтографам.

**Славамір Кулік**

# Бельскія сустрэчы

У Бельскім доме культуры з'явілася ініцыятыва серыйных сустрэч — „Бельскія артыстычныя кліматы", галоўная ідэя якіх — азнаямленне з дасягненнямі мясцовых калектываў і цікавымі культурнымі падзеямі ў горадзе. Як першы ў рамках гэтага цыкла запрэзентаваўся 11 лістапада „Хор польскай нацыянальнай песні", што працуе пры БДК.

— 19 студзеня арганізуем вечар гурту беларускай народнай песні „Маланка", якому спаўняецца якраз пяць гадоў, — гаворыць аб планах дырэктар Бельскага дома культуры **Сяргей Лукашук**. — Затым 2 лютага перад публікай выступіць вядомы хор „Васілёчкі", а 9 лютага — калектыў песні і танца Комплексу сельскагаспадарчых школ „Podlaskie Kukułki". 23 лютага арганізуем сустрэчу з калектывам беларускага ліцэя „Дзявочыя ноткі", які існуе ўжо, вядома, у розным складзе, дваццаць гадоў. А 1 чэрвеня юбілей дзесяцігоддзя будзе адзначаць яшчэ адзін наш маладзёжны калектыў „Dziurawy Wigwam". Раней, у сакавіку, толькі не ведаем яшчэ дакладнага тэрміну, запрэзентуюцца нашы танцоры з клуба „Kadryl-Gama". Плануем яшчэ тэатральнае спатканне, але яго тэрмін таксама пакуль невядомы. Пастараемся, каб прайшло яно ўжо вясною, але, калі нам гэта не ўдасца, адкладзем спатканне на восень. Калі „Бельскія артыстычныя кліматы" жыхарам горада спадабаюцца, будзем іх працягваць. Можам пашырыць формулу сустрэч і запрашаць да нас таксама гасцей.

**(ак)**

# Госці з Гродна

Ад 8 па 21 снежня 1996 года ў Настаўніцкай калегіі ў Шчытне прабывала група вучаніц Педагагічнага ліцэя з Гродна. Яны прымалі ўдзел у метадычных курсах і ў педагагічных практыках у шчытненскіх прадшколлі н-р 3 і ПШ н-р 3, а таксама наведалі Ольштын.

Стала ўжо традыцыяй, што польскія настаўнікі з Беларусі практыкуюцца ў ольштынскай калегіі. Гэта пазваляе ім пазнаёміцца са спецыфікай і метадамі працы ў нашых школах.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Гагатуха

Гагатуха — гэта апошні вечар старога года. Даўней інакш чым цяпер праводзілі гэтае свята. Аднак некаторыя абрады захаваліся да сёння. Напрыклад, зніманне варот, пячэнне кішкі. Гагатуха пачыналася 13 студзеня. У гэты дзень заўсёды пяклі кішку. Вечарам старэйшыя кабеты хадзілі ад хаты да хаты і спявалі песні:

*Васілёва маці пошла гоготаці,*
*хлеб на лопаці.*
*Роді Божа жыта*
*на новае ліэта,*
*Коб з аднаго каласочка*
*была жыта цэла бочка,*
*каб з аднэі каласіцы*
*была бочка пшаніцы.*

Потым, каля поўначы маладыя дзяўчаты збіраліся ў адной хаце і варажылі. Кожная дзяўчына брала сабе адну курыцу з куратніка. Перад курамі клалі абручальны пярсцёнак, ставілі ваду і пшаніцу. Чыя курыца падышла да абручальнага пярсцёнка, то гэтая асоба хутка павінна выйсці замуж, чыя піла ваду, тае муж будзе п'яніцай, чыя ела пшаніцу, тае муж меў толькі есці і больш нічога не рабіць.

Кожная дзяўчына рабіла або купляла сабе свечку. Потым дзяўчаты ставілі свечкі адна каля другой і ўсе разам запальвалі кожная сваю свечку. Тады чакалі. Чыя свечка першая згасне, то тая дзеўка першай выйдзе замуж, чыя другая — то другой выйдзе замуж, а чыя гарыць і не гасне, то тая асоба ніколі не выйдзе замуж.

Калі дзяўчаты варажылі, хлопцы хадзілі і знімалі вароты, сыпалі попелам дарогу ад дзяўчыны да хлопца. Калі настала поўнач, усе віншавалі сябе з Новым годам. Пасля ўсе ішлі ў царкву на багаслужбу. Дзень той быў самым важным днём у годзе. Было ж гэта развітанне са старым годам і прывітанне новага года, час, калі старыя перажыванні спалучаліся з новымі марамі.

**Кася СЕМЯНЮК**
**Кназазы**
**вуч. VII кл. ПШ у Храбалах**



*Гагатуха.* Малюнак Агнешкі ГАБІНСКАЙ з Трасцянкі.

## VII Сустрэчы „Зоркі"

Праходзілі яны ў выглядзе навагодняга конкурсу на працягу трох апошніх тыдняў снежня 1996 года. У іх прыняло ўдзел 15 школьнікаў. Найбольш энтузіястаў беларускай журналістыкі, што цешыць і здзіўляе, родам з прыпушчанскай Дубіччыны. Працы маладых журналістаў захапілі мяне. Будуць яны друкавацца ў „Зорцы". Плён конкурсу мы прадставім у наступных нумарах „Зоркі".

**Мерапрыемства спансаравала Польская фундацыя дзяцей і моладзі.**

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Навагодняя крыжаванка № 2

Адгадайце ўсе словы. Знойдзеце іх у сённяшняй „Зорцы". Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

- Займаюцца ёю дзяўчаты на Гагатуху
- Строяць яе на Каляды
- Так на Падляшшы называюць апошні дзень старога года
- Так называем кветку з жыта, якую ставім на покуці
- Знімалі іх хлопцы і неслі на крыжавыя дарогі
- Збожжа, з якога рабілі каляду
- Абрадавыя... напр. кішка, кісель, аладкі
- Клалі яго пад абрус
- Шчодры ..., Багаты, або Гагатуха
- Абавязковая страва на Гагатуху
- Знаходзім іх пад ёлкаю

**Адказ на крыжаванку н-р 50:** мур, крот, лязо, уява, падарожнік, хада, такт, Алах, яда, зад, мора, ружа, Ян, квіт, рака, торт.

Узнагароды — **каляровыя фламастэры** — выйгралі: **Аня Якімюк** з Падрэчан, **Юліта Харытанюк** са Старога Корніна, **Юліта Лушчынская** з Бельска-Падляшскага, **Крыстына Семяняка** з Міклашэва, **Эвэліна Высоцкая** з Гарадка, **Марыля Тапалеўская** з Кленік, **Катажына Хадакоўская** з Крыўца, **Дарак Кураш** з Гарадзіскаў, **Ірэк Абрамюк** з Нарвы і **Мар'юш Харкевіч** з Дубін.

Віншуем!

## Куцця

Часта гаворым пра традыцыі нейкага свята. Не заўсёды ведаем, а часам і не разумеем адкуль узяліся тыя ці іншыя абрады. Апошнім часам я даведалася ад сваёй бабулі пра традыцыю свята напярэдадні Каляд — Куцці. У нашым асяроддзі сапраўды цікава святкавалі. На жаль, цяпер знікаюць некаторыя важныя элементы. Зімовыя абрады пачынаюцца перад святамі Каляд. У той жа незвычайны час жанчыны прыбіралі хаты, мылі і чысцілі, каб пад свята ўсё прыгожа выглядала. Дзяўчаткі таксама не сядзелі, яны рабілі павукі, а таксама іншыя цікавыя аздобы з саломы і каляровай паперы, каб упрыгожыць прынесеную бацькам пахучую лесам ёлку. Хлопцы займаліся не менш важнай справай. У той час вывучалі калядкі і майстравалі звязду, каб у час Каляд павесяліць крыху людзей і праславіць Ісуса Хрыста, які ў той час нарадзіўся. Куцця — вядома, посны дзень. Дарослыя стараліся тады нічога не есці. Калі на небе зышла тая адзіная, непаўторная зорка, якую ўсе цэлы дзень прагна чакалі, можна было пачаць святочную вячэру. Тады ўсе апраналіся ў найлепшую вопратку, якую толькі мелі, і чакалі гаспадара сям'і. Калі ён уваходзіў у хату, спачатку гаварыў: „Здаровы будзьце з Калядою". У адной руцэ трымаў ён жытні снапок з зярністымі каласамі, а ў другой ахапак моцна пахучага сена, якога частку клаў у куце пад вобразам, а рэшту — пад белы, уласнай работы абрус і на крэслы. Ля сена ў тым жа куце ставіў таксама снапок-каляду. Гаспадыня пачынала застаўляць стол поснымі стравамі. Найважнейшая была куцця, якая найчасцей стаяла ў невялікім гаршку. У той незвычайны вечар, як верылі продкі, душы памерлых дзядоў і прадзедаў прыходзяць у хату святкаваць. У сувязі з гэтым першую лыжку грыбнога баршчу адлівалі ім на памяць. Перад вячэрай трэба было памаліцца. Так і рабілі, дзякуючы Богу за шчаслівa перажыты год, добрыя і дрэнныя дні. Прасілі здароўя для сям'і, бо гэта найважнейшае. Традыцыяй з'яўляецца і тое, што ў святы вечар на стале павінна быць роўна дванаццаць страў і адно свабоднае месца для падарожніка, які можа якраз да нас прыйсці. Найбольш страў рыхтавалі з рыбы і грыбоў. У той жа ўрачысты, святы вечар усе цешыліся і спявалі многа калядак. Найбольш папулярнымі ў нас з'яўляюцца: „Небо і земля", „Ражджаство Хрыстова", „Дзіўная навіна" і іншыя. Пасля Куцці пакідалі пад абрусам сена. Не забіралі з покуці і жытняга снапка. Найпрыемнейшым і самым прыгожым было ўбіранне ёлкі. Вешалі на ёй не толькі аздобы, але і грушы ці яблыкі. Усе нецярпліва чакалі пакуль бацька запаліць на ёлцы спецыяльныя, невялікія свечкі. Тады людзі адчувалі сябе сапраўды шчаслівымі.

Вось так я расказала пра наш калядны абрад — Куццю, як яе нашы дзяды і прадзеды ў маім асяроддзі праводзілі. Аж сэрца шчыміць, калі падумаеш, чаму так мала нас вяртаецца да ўсё жывой традыцыі і чаму губім той жа магутны скарб, які пакінулі нам продкі, пераказваючы абрады з пакалення ў пакаленне. Калі будзем аб ім забывацца, будзем намнога бяднейшымі.

**Ірэна КУЛІК**
**вёска Тафілаўцы**
**вучаніца VIII кл. ПШ**
**у Дубічах-Царкоўных**

Талон „Зоркі" № 2
12.01.1997

# Багаты вечар у Макаўцы...

Свята Каляд і Новы год — гэта найбольш чаканыя святы. Тады зіма, белы снег, святочныя парадкі.

Апошні дзень старога года на Падляшшы называлі *Гоготухай*. У гэты дзень моладзь варажыла. Мяне зацікавіў расказ 80-гадовай жыхаркі Макаўкі **Тацціяны ЛЯШЧЫНСКАЙ**:

— Маладыя дзяўчаты варылі кашу і мяшалі яе драўлянай лыжкай. Пазней набіралі на гэтую лыжку кашы і ішлі з ёю да сабакі. Падыходзілі да буды і махалі лыжкай навокал сабакі. Трэба было ўлавіць месца, калі залае сабака, бо са стараны, дзе знаходзілася ў той момант лыжка, меў з'явіцца будучы муж. Варажылі таксама топячы ў вадзе воск. Было пры гэтым многа радасці і здагадак „што гэта ёсць". Наступныя варажбы выглядалі не менш цікава. Хлопцы знімалі вароты і клалі іх на дарозе. Выварочвалі ці пераносілі прыбіральні-„нужнікі". На дарогу вывалакалі ткацкія кросны. Ад хлопца, які кахаў дзяўчыну, пасыпалі дарогу-сцежку з попелу і пяску. Варажылі і пры дапамозе саломы. Людзі клалі яе ў куток, каб добра збожжа радзіла. Гэтай саломай абвівалі маладыя дрэўцы яблынь ці груш, каб садавіна была смачная і здаровая.

Іншую варажбу расказала мне мая мама, **Міраслава САДОЎСКАЯ** з Макаўкі. Ёй за 30 гадоў, а пра навагоднія варажбы расказала ёй мая бабуля. У варажбе ўдзельнічалі тры дзяўчыны. Рабілі яны галушкі з вады і мукі. Пазней прыносілі ў хату тры маладыя курыцы. Якой дзеўкі курыца першая з'ела галушку, тая першая мела пайсці замуж. Хлопцы таксама не сумавалі. Збіралі ў гаспадароў дровы, вырывалі штыкеціны з платоў ды ўстаўлялі іх у кучкі па пары або адзінымі. Запрашалі тады дзяўчат, каб іх цягнулі. Як выпадзе адно палена — гэта лішка і дзяўчына не пойдзе замуж. Як выцягне пару — два палены, дзяўчына выйдзе замуж і будзе з мужам шчаслівая. Людзям, якіх не любілі ў вёсцы, малявалі фарбай вокны і ўцякалі. Калі гэтая асоба мыла свае вокны, жулікі вельмі смяяліся.

Пра даўнейшыя варажбы расказаў мне таксама **Яўген ВЯНЦЛАЎСКІ** родам з Макаўкі. Яму 24 гады, але добра памятае навагоднія абрады.

У гліняны гаршчок насыпалі попелу. Неслі яго ў дом, дзе былі прыгожыя дзяўчаты. Пасля ўваходзілі ў сені, укідалі саган і ўцякалі. Каб перапалохаць дзяўчат, рабілі таксама з дыні маскі, палівалі іх водкай і спіртам і падпальвалі. Так хадзілі палохаць дзяўчат. Гаспадару, які меў нязамужнюю дачку, кралі воз і ўцягвалі яго на дрэва. Пасля гаспадар сам сцягваў свой воз.

Пра вельмі цікавыя варажбы я даведалася ад **Аляксандры ЧЭРНЯКЕВІЧ**, якая жыве ў Макаўцы. Нарадзілася яна 28 сакавіка 1927 года.

Каб выйсці замуж, дзяўчаты ўбівалі гвоздзі ў дзверы. На гэтыя гвоздзі дачаплялі ніткі, якія падпальвалі. Чыя нітка першая спаліцца, тая дзяўчына першая пойдзе замуж. Калі маладая дзяўчына вяртаецца дамоў і падслухае гутарку бацькоў — гэта таксама варажба. Як пачуе „ідзі!" — выйдзе замуж, а як пачуе „ідзі спаць!" — памрэ. Вечарам ад плота да плота вязалі шнуркі. Калі хлопец парве такі шнурок, тады суседзяў дачка выйдзе замуж.

На *Гоготуху*, раніцай, дзяўчына выходзіла на панадворак. Каторага першага хлопца спаткала, той меў быць яе мужам. Калі, вяртаючыся, сустракала яшчэ аднаго хлопца, значыць, у сваім жыцці будзе мець некалькі мужаў.

У багаты вечар усе прыгатаўлялі багатую вячэру, бо гэта прадвяшчала, што гаспадар будзе мець ураджай увесь год.

Навагоднія звычаі варажбы вельмі разнавідныя. Думаю, што нельга іх забыць!

**Аня Садоўская**
**в. Макаўка**
**вуч. VIII ПШ у Нарве**

# ... і ў Грабаўцы

Гагатуху — багаты вечар, як кажуць у народзе, святкавалі па-рознаму. Дзяўчаты варажылі, насілі дровы дахаты і лічылі: пара — лішка, як каму выходзіла лішка — вельмі смяяліся, што застанецца гэтая дзяўчына старой дзеўкай. Кідалі галёшы цераз хату (падбіралі старыя, нізкія хаты). Смешна было, калі галёш упаў у комін. Вылівалі воск на ваду і прыглядаліся, што каму выйдзе. Пісалі так званыя „лёсы", на якіх пазначаны былі імёны хлопцаў, клалі пад падушку і раніцай дзяўчыны выцягвалі імя будучага хлопца. Калі які хлопец хадзіў з дзяўчынай, то сяброўкі высыпалі попелам сцяжынку ад хлопца да тае дзяўчыны або высцілалі яе саломаю. Знімалі вароты і неслі іх за сяло, кідалі на ростань дарог і гукалі як мага галасней. Другія прыслухоўваліся, куды нясłося рэха. Гэта абазначала, што з той стараны будзе будучы муж. У багаты вечар не былі галоднымі куры і каты. Дзяўчаты прынасілі каўбасу, клалі кожная сваю на падлогу, пускалі ў хату ката або курку і чыю каўбасу возьме першую, тую чакае хуткае вяселле. Куры таксама зачынялі ў хлябную печ, потым адчынялі і чыя першая выйдзе, то тая дзяўчына хутка выйдзе замуж. У гэты вечар не спалі і хлопцы. Яны знімалі фортачкі, выводзілі вазы на дарогу і ставілі іх упоперак. Гэта абазначала, каб чужыя хлопцы не ехалі да дзяўчат у сваты. Лічылі штыкеціны на платах і пры тым гаварылі: *молодец, удовец*. Блізка поўначы хлопцы з дзяўчатамі хадзілі і *шчадравалі*: спявалі „Гоготуха гоготала, нігдэ кішкі нэ достала, як достала то і з'ела, пуд окіенцом насмітыла" або „Чы е ў дома пан господар, чы е ў дома господыня". Хлопцы гаспадара падгуцвалі, гаспадыні спявалі пажаданні. За гэта даставалі кішку ды каўбасу. А потым ішлі ў хату адной сяброўкі, гатовілі застолле з таго, што назбіралі. Хлопцы прыносілі гарэлку і гасцявалі да другой гадзіны ночы. Пазней ішлі ў царкву на *Ўсюночную* і маліліся да раніцы. А як прыходзілі, крыху адпачывалі і зноў збіраліся ўсе разам. Тады прыязджаў раней згоджаны музыкант. Калі крыху пагасцявалі і паспявалі, усе ішлі на забаву. Гулялі цэлую ноч да ранку. Пасля забавы, пара за параю, разыходзіліся дамоў. Часта і цяпер мая мама ўспамінае, як калісьці было цудоўна!

**Андрэй Пракапюк**
**в. Грабавец**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

*(Паводле ўспамінаў **Любы ПРАКАПЮК** — мамы аўтара, жыхаркі вёскі Грабавец, што ў Дубіцкай гміне).*

# Навагоднія абрады

Усе з нецярплівасцю чакаюць новага года. Ужо нашы прадзеды віталі яго. З днём, калі адыходзіць ад нас стары год, вяжацца многа традыцый і абрадаў. На вёсках можам пабачыць вельмі розныя, але таксама цікавыя абычаі. Мае бабулі Надзя (66 гадоў) і Ніна (59 гадоў), якія жывуць у Орлі, не раз апавядалі пра іх.

Калісь, у навагоднюю ноч, моладзь пераапраналася цыганкамі, смерцю ды разбойнікамі. Яны хадзілі ад хаты да хаты і спявалі „Чудры вечар". Гэты абрад называўся „чудраваннем". Часта „чудраўнікі" рабілі розныя жарты: то здымалі брамку з плота, то брамку засыпвалі снегам, каб гаспадар не мог выйсці, іншым разам лавілі звяроў і пазней пускалі іх у хату. Дзед (69 гадоў), таксама з Орлі, апавядаў, што ў юнацтве разам са сваімі сябрамі зацягнуў нават жалезняка на суседаў хлеў. Жалязняк — гэта колішні драўляны воз, які меў жалезныя абручы на колах. Ніхто не абражаўся за такія жарты. Гэта была толькі смешная забава. З кожным годам прыбывала больш новых жартаў і абрадаў.

У гэтую ўрачыстую ноч ніхто не спаў. Кожны чакаў поўначы, каб прывітаць Новы год і павіншаваць іншых з гэтым святам. Жанчыны рыхтавалі добрую вячэру, абавязкова з бульбяной кішкай з малаком. Бацькі давалі сваім дзецям ласункі і напаміналі іх, каб у гэтую ноч былі паслухмяныя, бо інакш цэлы год будуць буяніць. Таксама дарослым не можна было ў той час працаваць, бо праз цэлы новы год не будуць мець адпачынку. Абавязкова трэба было быць вясёлым, бо інакш у наступным годзе будуць сумнымі.

Калі хлопец саромеўся сказаць дзяўчыне, што яе любіць, то дарогу ад яе дому да свайго пасыпваў попелам.

У гэтую ноч моладзь любіла сабе таксама варажыць. Калі дзяўчаты былі цікавыя, каторая з іх першая выйдзе замуж, трэба было стаць кругом, а ў сярэдзіну пусціць чорнага ката. Тая, праз чые ногі звярок хацеў выйсці, першая будзе шчаслівай жонкай. Каб у новым годзе дзяўчына была багатая і прыгожая, трэба ёй было апоўначы заглянуць у печ, у люстра, а на дне студні пабачыць манету, якую трэба было сюды ўкінуць раніцай. Хлопец, калі хацеў пабачыць, якая дзяўчына яго кахае, вечарам клаў пад падушку карткі з імёнамі дзяўчат. Раніцай выцягваў адну картку з іменем той, якая яго любіць. Каб у сне пабачыць сваю будучую жонку, мусіў ён падлажыць сабе пад галаву споднюю спадніцу, або пасля вячэрняга мыцца выцерціся спадніцай. Былі таксама многія іншыя варажбы.

Кружыла легенда, што калі гадзіннік выб'е поўнач, хатнія звяры пачынаюць гаварыць чалавечым голасам і апавядаюць аб тым, што здарыцца ў той хаце ў новы годзе.

Некаторыя з гэтых абрадаў не захаваліся, але многа з іх (асабліва на вёсцы) існуюць аж да сённяшняга дня.

**Ілёна Кубаеўская**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Свята Каляд

Ражджства Хрыстова, называнае на Падляшшы Руздвом — гэта адно з дванаццаці найбольшых святаў у годзе. Гэтае свята мае пастаянную дату, 7 студзеня. 6 студзеня на Куццю людзі нічога не елі і нават не пілі, усе чакалі першай зоркі на небе. Часам дзецям давалі пакаштаваць поснай стравы.

На тэму Куцці, Каляд і калядавання размаўляла я з жыхаркай вёскі Елянка **Надзеяй ЧЫКВІН**, якой зараз 70 гадоў. Расказала яна пра Куццю ў часы сваёй маладосці.

— Калі я была малой дзяўчынкай, у нас, у Дубічах-Царкоўных (бо там жыла Надзея Чыквін) мой бацька Піліп на Куццю прыносіў у хату ёлку. Усе мае сёстры, а мела я іх чатыры, вельмі цешыліся. Калісьці ёлка не была багата прыбрана. У некаторых старэйшых людзей не было яе зусім. У нас была яна заўсёды. Я і мая найстарэйшая сястра Оля вельмі любілі яе строіць. На Куццю прыносілі ў хату сена (цяпер кладзецца яго пад абрус) і снапок збожжа (дакладна з жыта), які ставілі ў покуці. Сена, якое асталося з вязкі, клалі ў ложак. Раніцай тое сена аддавалі жывіне.

Некаторыя звычаі з даўніх гадоў ужо забытыя, але 12 страў і цяпер ставяць на калядны стол. Куццю пачыналі малітвай. З давён-даўна гавораць малітву „Отча наш". Гэта малітва Ісуса Хрыста. Пасля поснай вячэры ўсе абдароўваюцца падаркамі. На Каляду некаторыя пераапранаюцца за Дзеда Мароза і раздаюць падаркі малодшым, старэйшыя знаходзяць падаркі пад ёлкай. Вечарам, у 12 гадзін людзі едуць у царкву. Паводле легенды, усе звяры ў цэлым свеце гавораць з сабою. Мне ўсё ж хочацца ў тое верыць. Вярнуўшыся з царквы, усім хочацца пакаштаваць мясных страў, якія нарыхтавалі пад Руздво. З'еўшы снеданне, людзі адпачываюць. На першы дзень спяваюць калядкі. Пачынаюць іх спяваць наймалодшыя.

У нас на вёсцы было вельмі многа дзяцей. Збіраліся мы ў час посту і вучыліся спяваць калядкі. Былі яны такія самыя як цяпер, але спявалі іх на трохі іншую мелодыю. Раней усе, калядуючы, спявалі такія песні: „Ражджство Хрыстова", „Зыйшла чудна звезда", „Дівная новіна". Цяпер спяваюць яшчэ іншыя: „Варвара", „Ціхая ноч", „Учора з вячора", „Святы вечар" і многа іншых. За калядаванне дарылі мясам (у багатых), а ў бедных — булкай. Мы вельмі цешыліся з такіх дароў. Каб пачаставаць усіх, трэба было нарыхтаваць многа яды. Цяпер каляднікам даюць грошы, а каляднікі купляюць яду і піццё і самі ладзяць гасціну.

Усе людзі развітваюцца са старым годам і вітаюць новы.

**Барбара Казімерук, в. Елянка**
**вучаніца VII класа ПШ у Дубічах-Царкоўных**

# Новыя вершы

**Міхась Андрасюк**

## Імгненне

А на званіцах сёння
цішыня.
Вось памірае
безыменнае імгненне.
Калі й была ў яго
якаясьці радня,
пайшла даўно.
У безыменнасць.

Выходзячы на ясную
паляну,
дзе час плыве
насустрач небакраю,
чужой хвіліне
аддаю пашану,
сваю — на вашай ласцы
астаўляю.

## Грыбы

Грыбы
вырастаюць з імглы,
з расы,
з начнога спакою.
А з чаго
вырастаем мы,
звычайныя — я з табою?
Над намі будзённы сасняк,
у сукнях святочных каліна.
Пад намі трава і зямля.
Карзіна.

## Ружа

Вазьму ў запас кудлаты снег,
крылаты смех
зімовых сцежак і дарог.
Цэлага свету бель звяжу,
у адну ружу
і злажу
на твой парог.

Выходзячы ў ліхую замець
не пераступіш абыякава
ружу, якая за каханне
расла.
І плакала.

## Зяці

Ночы халоднай мы зяці
і пакуль жонка не счарнее
кахання ў нас
хоць гаць гаці.
І веры.
І надзеі.
Ад'едуць госці. А дзень міне.
Жонка пасаг свой прамантачыць.
Цень чорнай цёшчы на сцяне
пра лёс нагадвае
прымачы.
Як ні круці, як ні вярці,
сну не абмыць вадой пякучай.
У гэтым жыцці
мы ўсе зяці.
У цёшчы неўміручай.

## Сцяна

Ухапілася за грудзі вёска.
Так да душы адно гаркота
прыліпае.
Фальшывым, крывадушным воскам.
Не растае.
І не згарае.

Сцяна пачатку ёсць Сцяною Плачу,
не абмінуць яе ў нявіннасці
й віне.
Скаштую грэх. І спадчыну растрачу.
І пакланюся
жудаснай сцяне.

## Словы

словы
а што такое слова
цяляснасць думкі
водбліск думкі
крык душы
ці толькі
дасканаласць канчатковая
бялком у рух
прыведзеных машын.

## Цень

Малітва. Грэх. Цвікі і шрамы.
Трава, што побач спраў ідзе.
І на траве раскрыжаваны
мой верны цень.

Мінае восень. Спее сад.
Святло згартаюць пальцы жнеек.
Даўжэе мысль і даляgляд.
І цень мой на траве даўжэе.

Як слізкаскурая змяя
спаўзе ў належную нару.
А ўсё-ткі дзіўна, што і я
зямлю звычайна паўтару.

**Сяргей Чыгрын**

## Новы год ідзе на Беларусь

Новы год ідзе на Беларусь,
А стары знікае назаўсёды.
Будзе новы вытканы абрус,
Прагучаць і новыя акорды.

Новы год ступае асцярожна,
А стары імчыцца ў небыццё.
Новы год жадае пераможна
Упрыгожыць нашае жыццё.

Ён ману з хлуснёю ненавідзіць,
Халуёў не любіць, брахуноў.
Можа беларусаў ён разбудзіць
Ад цяжкіх і летаргічных сноў.

Новы год ідзе на Беларусь,
Каб пачуць Купалу і Скарыну.
Мой народ рахманы прыгарнуць,
Абагрэць яго, каб не загінуў.

Новы год ступіў на курганы,
На крутыя сцежачкі, як змейкі.
Тут з далёкай, мудрай даўніны,
Плачуць ў хатах сумныя жалейкі.

Можа гэта шчэ не Беларусь,
А зусім далёкая краіна?..
Божа, дакажы, што Беларусь
Для майго народа не чужына.

Дай сустрэць з надзеяй Новы год,
І не дай ты Бацькаўшчыне згінуць.
Каб трывогу і мяшок турбот
На наступны год нам не пакінуць.

**Алесь Залескі**

## Роднай зямлі

Уся ў белай квецені садоў,
Змыўшы грозамі зімовыя кайданы,
Патануўшая ў клёкаце буслоў,
Распяшчоная вясновымі вятрамі.
Цягнешся да сонца і цяпла
Ў прадчуванні надыходзячага лета.
Дзе, ў якіх яшчэ краях
Я ўбачу, я адчую сэрцам гэта?

Любая, адзіная мая.
У спёку поіш мяне з чыстае крынічкі.
Родная, каханая зямля.
Ноччу свецяць над табой пуцяводныя
зарнічкі
Беларусь, даўнейшая Літва.

Ціхім ранкам выйду на ўсход,
Да сівога дуба прытулюся,
Замілуюся на жаўрука ўзлёт
І духмянасцю тваёю абап'юся.
І адчуе цеплыню мая рука
Дуба-волата дакнуўшыся старога,
А ў празрыстым небе над табой
Я ўбачу узыход Сварога.

Калі цяжкі час спаткае нас
Здрады змрочны час, жабрацтва
і манкурцтва
Ты ўбачыш, колькі ёсць шчэ нас
Не згадзіўшыхся на подлае халуйства
І дасі нам моцы на пагонь
Годнасці і трваласці і мудрасці
Каб не попел ў сэрцах грукаў, а шугаў
агонь,
Каб нам шчыра важыць літасці
і лютасці.

Мы застанемся з табой, твае сыны
Хлебам ўзгадаваныя тваім і песнямі.
Ашуканцы льюць няхай што-больш
маны
На свой млын — хутчэй сплывуць
са смеццем.
Веру — будзе зноў зямля мая цвісці.
Веру — будзе зноў над ёю чыста неба
Варта дзеля гэтага цяжар ахвяр нясці.
Нават толькі дзеля гэтага і трэба.

А калі вясёлка зайграе над табой,
Не застанецца і ценяў старога
праклёну,
Хтосьці незнаёмы ўстане нада мной,
Правядзе рукой па кары старога клёну.
Я пачую голас, а магчыма спеў
І ў адказ яму прашапчу тастамент
Ветрыкам вясновым у галінках дрэў
Цёплым і лагодным як травы аксаміт.

Любая, адзіная мая,
У спёку поіш мяне з чыстае крынічкі
Родная, каханая зямля,
Ноччу свецяць над табой пуцяводныя
зарнічкі
Беларусь, даўнейшая Літва.

Стаі чорныя крукоў я разганю
Што сабраліся заўчасна на памінкі,
Путы ворагаў тваіх я разаўю,
Растаплю лядовыя зазімкі.
Буду сто гадоў гукаць вясну,
Буду сто гадоў чакаць яе прыходу
На цябе — святую і няшчасную зямлю,
Бацькаўшчыну зрабаванага народу.

**Максім Танк**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1979

**22.IX.** Прыляцелі з Любашай у Сафію. На аэрадроме ледзь не размінуліся з Баянай. Спыніліся ў гасцініцы „Балкан" — у самым гандлёвым цэнтры. За акном — нейкая старажытная царква. Вечарам доўга блукалі па бульварах і вуліцах Сафіі. Былі і на славутай Віташы, з якой сцякае бязводная, запруджаная каменнымі глыбамі рака. Сустрэліся з Караславам. Цягніком выехалі ў Плоўдзіў. Начавалі ў нейкім былым купецкім доме, які стаіць на досыць высокай гары і дабірацца да яго трэба лабірынтам вузкіх сярэднявяковых завулкаў. Ноч цёмная. Недзе гадзіннік адлічваў час, ды пераклікаліся галубы.

**25.IX.** Нарэшце дабрылі да Хісара. Тут сустрэлі нашых знаёмых: М. У. Таўбэ і яго жонку — Таццяну Аляксееўну, члена рэдкалегіі „Иностранная литература".

**27.IX.** Усе гэтыя дні Хісар задыхаецца ў афрыканскай гарачыні. Хадзіў знаёміцца з горадам, яго велічнымі руінамі былой рымскай крэпасці. Атрымаў тэлеграму, у якой Л. Еленкаў запрашае на свята балгарскай паэзіі, прысвечанае 70-годдзю М. Вапцарава.

**4.X.** Хадзілі на рынак палюбавацца дарамі гэтай зямлі. Горы памідораў, вінаграду, перцу, яблыкаў...

Неспадзявана, як боская кара, прыехаў Зосін Валодзька (Плятон-Сегаль). Прыехаў з Сафіі, даведаўшыся, што мы ў Хісары адпачываем. Усё было б добра і мы былі б яму рады, каб ён не піў. А то ж прыкра глядзець. Заўтра чакаем Сільву, з якой паедзем у Плоўдзіў.

**7.X.** Усю ноч барабаніў дождж. У Плоўдзіве на літаратурным вечары, прысвечаным юбілею „Литературной газеты", сустрэў масквічоў... Пазнаёміўся з Марыяй Дзмітравай, якая пераклала аповесць Янкі Сіпакова „Крыло цішыні". Прасіла прыслаць ёй беларускі слоўнік. Нарэшце пакінуў нас Валодзька. Не ведаю, як ён тут будзе жыць і працаваць, калі з ім нельга толкам і пагаварыць. Яму трэба лячыцца, а не бадзяцца па свеце, рэстаранах і піўнушках. І бясконца хваліцца, як і ўсе алкаголікі, што ў Варшаве ў яго выйшла некалькі зборнікаў, выдаў беларускую анталогію (?), усім польскім паэтам рабіў падрадкоўнікі вершаў беларускіх паэтаў, быў на канферэнцыі пісьменнікаў краін Афрыкі і Азіі ў Ташкенце, купіў машыну...

**16.X.** Пара збірацца ў дарогу. Калі, як дамаўляліся, машына прыйдзе раней, можа ўдасца мне пабываць на кансультацыі ў славутага доктара Дымкава. Амаль месяц я тут адпачыў ад дамашніх спраў і клопатаў.

Думаю: колькі ў сусветнай і нашай літаратуры розных герояў, якія разыходзяцца з праўдай. Некалі варта да гэтай тэмы вярнуцца.

**17.X.** Дарога да Сафіі такая маляўнічая, што вачэй ад яе не адвесці. Асабліва прыгожа выглядаюць горы з залатой чырвані восеньскай лістоты.

Баяна перадала, што заўтра мяне прыме — не ў бальніцы, а на сваёй кватэры — доктар Дымкаў.

Апошнімі часамі стала модна: расказаць, як пісьменнік пісаў свой раман ці паэму, мастак — сваю карціну, артыст — іграў. Важна — што атрымалася. Чытаю пра габраўцаў і ўспамінаю, што і ў нас, амаль у кожным пасёлку, былі свае жартаўнікі, якія маглі паспаборнічаць са сваімі балгарскімі сябрамі.

**18.X.** З Антонавым ездзіў да чарадзея Дымкава. Дом яго стаіць на водшыбе. Прыняў нас у сваім кабінеце, заваленым кнігамі, пісьмамі, тэлеграмамі. Самае цікавае, што на дне маіх вачэй, не заглядаючы ў прывезеную мной гісторыю хваробы, пералічыў усе мае недамаганні. Абяцаў мне прыслаць апісанне лячэння маёй хваробы. Раіў, каб звязаўся ў Маскве з доктарам В. Рафілавай і з кіеўскім доктарам В. У. Крывенка. А пакуль кожны дзень перад ядой выпіваць паўшклянкі капуснага соку. 250 гр. высушаных лістоў каштана запарыць і перад сном пакласці на жывот, прыкрыўшы шарсцяной коўдрай. Вечарам 12 разоў прамыць вочы вадой і пакласці на іх кампрэс з тварагом, а на галаву — каштаны.

Прачытаў даклад М. А. Суслава. Усё больш становяцца для мяне незразумелымі адносіны нашых ідэолагаў да спраў культуры. Быццам на свеце не адбылося ніякіх змен, ніякіх пераацэнак, што пярэчыла б развіццю грамадства.

**19.X.** Перад ад'ездам на аэрадром сустрэўся з Стэфанам Паптоневым (балгарскім пісьменнікам — рэд.), які толькі што вярнуўся з Беларусі. З захапленнем расказваў аб сваёй паездцы на Віцебшчыну, на Нарач.

А Масква сустрэла нас снегам і дажджом. Добра, што хоць познім вечарам дабраліся дадому. У Грышыным пакоі яшчэ гарэла святло.

***(працяг будзе)***

# Чорт у хаце

**Добры быў калісь гаспадар і муж Коля Несцер. Ды здурэў на старасць. Усюды бачыў сваю Насцю ў абдымках уяўных супернікаў, і выбіваў з яе тую здраду заўзята. Аж узяўся за справу... Адны кажуць, што чорт, іншыя — анёл-ахоўнік, бо зляцеў і зрабіў у хаце парадак.**

У вёсцы Бабуркі N-скай гміны няма чаго людзям плёткамі займацца. Праўда перарастае фікцыю, бо часам такога і не выдумаеш, што творыцца на свеце.

— Усе ведалі, што Коля Несцер

**пачаў біць**

сваю старую, — кажа Васіль Супрун, званы Вацкам, пенсіянер з хутара Насавое. — Ніякае гэта дзіва, у горадзе і вёсцы такое ўпаткаеш, што добрая сям'я пачынае кепска раптам жыць. Толькі калі ўжо толькі нянавісці ў хаце назбіраецца, што дыхаць ужо няможна, то людзі развесціся могуць.

— У горадзе бабы адважнейшыя, — дакладае Надзя Гоздзік. — Там і бабы больш вучоныя, умеюць усюды дайсці. Мы, старыя, то і думаць не думалі, калі нават было так, што хоць вешайся. Маладая якая можа і пагражала мужу, што пойдзе ад яго ў свет, але, ведаеце, дзеці, гаспадарка... Муж, хоць чорт самы, то на старасць прыціхне. Ды і якія маладыя! Насці вось ужо 60 гадоў, а адна яна з маладзейшых у вёсцы!

— На Колю кепскага слова ніхто не сказаў бы раней. Усе яму зайздросцілі. Добры гаспадар быў, пабудаваўся што го-го, — паказвае пальцам дзед Андрэй Кастэнцік. — Такія хлявы, якая хата! Як у месце! Паніска! А піць пачаў не з бяды хіба? Людзі маюць на скібку хлеба, і то жывуць добра, у згодзе. Ну, гляньце, якія палацы.

І праўда, асабняк Несцераў і гаспадарчыя будынкі робяць уражанне: усе з шэра-блакітнай цэглы, бункераватыя, асабліва двухпавярховы дом у модным у сямідзесятыя гады стылі „запалкавых пушачак", абудаваны яшчэ нейкімі, ужо „нелегальнымі", здаецца, прыбудоўкамі, па модзе саміх гаспадароў. Пад домам, ад вуліцы, дзе ў іншых сялян дацвітаюць апошнія летнія кветкі, звычайныя, вясковыя ды выспявае гародніна, у Несцераў — стрыжаная траўка і нізенькія ні то ядлоўчыкі, ні то туі і пару ружавых кусцікаў. Агарод у іх за вялізнай стадолай, цяпер амаль пустою. Зямлю здалі Несцеры „пад панства". Сыну паставілі вілу пад Беластокам, дачцэ выкупілі „блёк" у Гайнаўцы. Распрадалі амаль усе машыны. Трымаюць карову і пару свінак. Можа, і ад нуды пачаў піць Коля Несцер?

— І раней выпіваў, як кожны чалавек, — кажа баба Олішча, — але за працаю свету не бачыў. Несцеры налягалі на работу, як дурныя, бы хто хацеў ім што вырваць з горла. Такі род іхні здаўна быў, памятаю яго бацьку і дзеда, Касцюка. Нават у святую нядзелю, калі пагода стаіць, то ехалі ў поле ці на луг. Нават Ільюю ці Ганну не ўшанавалі, як паганцы, калі рабіць што трэба было. А колькі чалавеку ўсяго трэба будзе, то ж у магілу за сабою не пацягнеш! — бабуля усхвалявана стукае калочакам аб трауруар. — Каб хоць усё тое на радасць пайшло! Дзеці пабралі тое, што ім трэба, і нават дахаты не заглянуць, толькі Марыська малога летам падкіне, каб маці папільнавала, калі яна едзе ў цёплы край адпачываць.

Захацела была Насця з тае нуды, што рабіць цяпер папраўдзе няма чаго, пайсці на якую працу ў людзі. Стала ў краму. Стаіць, працуе, грошы лічыць, а тут раптам убягае Коля і пачынае яе пры людзях бэсціць, цягаць за кудлы:

**куды падзела каханка?**

Людзям смех, а кабеце бяда. Трэба ж крыху прыхарашыцца, калі ў людзі ідзеш, ды і ёсць за што тую парфуму купіць. Усю касметыку Коля ў печ уваліў, бензінам падліў, каб хутчэй гарэла. Нашто старой бабе ўсе тыя пудры? Завяла кобеля, няйначай. Колю семдзесят чатыры, а кавалераў во колькі наўкола, усе на Насцю вырачаюцца. Колькі разоў вазілі яе ў гміну „на разлічэнне"! Папахадзіла тады Несцерча ў цёмных акулярах і густых панчохах! Але на паліцыю не падавала. Аж краму зачынілі, прывозіць цяпер прадукты „прываціж". Пачала Насця ездзіць у гмінную школу, рабіць кухаркай. Цэлымі днямі дома няма, вяртаецца на школьным аўтобусе. Паездзіла так месяцы тры. Прыехаў Коля на аўтобусе ў мястэчка, забег у гасподу для адвагі. Наведаў школьную кухню. Папабегала Насця па школьных калідорах, перад мужам узброеным у цясак ды апалонік! Вядома, скандал быў на ўсю гміну. Села тады Насця ў хатні арышт, вязаць швэдры, гафтаваць у „рышэльє" абрусы і пасцель для ўсяе вёскі. Ды колькі ўсяго гэтага каму трэба! Звяжа кофту Насця, прымервае перад трумо ў гардэробе, а тут Коля ўбягае з падворка, і раве: „Здзяру з цябе гэту анучу, сука! Для каго так фарсіш?! Куды зноў выбіраешся?!" Сам неяк апусціўся, зусім перастаў дбаць аб сябе, а раней то паголены, чысты нават у хлеў хадзіў.

— Праўда, выглядаў крыху як хворы, але хто ў нас у вёсцы не хворы ў яго гадах! — махае рукой баба Олішча. — Работа ўсе сокі з чалавека высмакча, а хто мае час лячыцца! Яшчэ бабы ўзіраюцца, што там дзе якой баліць, адна адной кажуць, што рабіць, калі нямоглась якая нойдзе, да таго ж не п'юць, не кураць. А мужыкі — ледзь трымцяць. Гляньце на нашых кавалераў...



— Папраўдзе і Насці мала бракавала, каб здурэць. Вазьмі вытрымай такое! Невядома, калі на Колю нойдзе дурны настрой. Уцякала да мяне найчасцей, — кажа Косця Паўтаран, кавалер каля 50 гадоў. — Цераз плот ад іх жыву. Меркаваў нас адно да аднаго ўжо здаўна. А мне проста шкада было глядзець, як іх сям'я гіне. Калі б мяне ў той час не было, то што б там натварылася!

Косця, пачуўшы

**страшны крык Насці**

убег на першы паверх Несцеравай вілы. Дзякуючы ягонаму сведчанню, не абвінавацілі Настасіі Несцер у спробе забойства мужа.

— Коля, як сляпы, размахваў сякерай наўкол сябе, сек, дзе папала, — расказвае Паўтаран, падкрэсліваючы ход гісторыі жэстамі. — Рубануў па дзвярах. Насця, у парванай блузцы, ускудлачаная, з нажом у руцэ, спачатку ўцякла на падстрэшак, пасля другімі сходамі збегла да мяне. Я стаяў як укапаны. Коля ляцеў з сякерай на нас, а я не мог нават крыкнуць. „А, я цяпер усё ведаю і бачу!" — Коля вішчаў па-бабску. — „Цяпер то я вас зарубаю насмерць!" Насця раптам кінулася ў яго бок, з нажом аберуч, і паляцела на яго. Я ззаду быў, думаў, што забіла, бо раптам абое яны пападалі...

У тую секунду на іх галовы скочыў Мурза, стары прыблудны кот.

**Мурзу Коля ненавідзеў**

хіба больш яшчэ чым Насцю. І вешаў быў яго, і біў чобатам па галаве, і вывозіў, а той усё вяртаўся дахаты. Кацiска стараўся сыходзіць гаспадару з дарогі, як і ўсе ў вёсцы, але гаспадыню не кідаў, прымошчваўся каля яе ў хаце, хадзіў як сабачка па вёсцы, адводзіў на аўтобусны прыпынак...

— Каб я не бачыў гэтага на ўласныя вочы, не паверыў бы! Мурза ўздыбіўся, зрабіўся рыхтык чорт, заверашчаў і ўчапіўся Колю ў галаву, — Косця аж ускінуў над галавою рукі. — Заднімі лапамі задзергатаў па вачах! Такога віску я не чуў, колькі жыву! Насця самлела, выпусціла нож з рукі. Я ў першую хвіліну не ведаў, хто каго забіў! Насця прабіла Колю руку, ён чархнуў яе сякерай па вуху, абое ў крыві ляжалі на дыване, а кот стаяў на Колевай галаве і вішчаў, як дзіця. На мяккіх нагах я пабег да солтыса...

— Штотыдзень езджу да Колі ў псіхушку. Лечаць яго, але ці вылечаць! — паціраe Насця Несцер загоенае ўжо вуха. — Каб справа была толькі ў вачах! Адно яму Мурза выдзер, на другое ледзь бачыць. Усё жыццё нармальны быў... Цяпер мне кажа: „Ты, Насця, я цябе люблю, чакай мяне, але таго чорта і так павешу!"

Трохколерны Мурза, сыты і лагодны, дрэмле на дыванчыку ў кухні. „Як жывеш, гаспадар?" — пытаюся ў яго. Адплюшчавае жоўтыя вочы: „Мур-р-р, добр-р-ра, Міра. Парррррадак!"

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Мастацтва царкоўнай кнігі

У Палацы Красінскіх у Варшаве, дзе змяшчаецца Аддзел спецыяльных фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, у кастрычніку і лістападзе была наладжана выстаўка графікі і аздаблення царкоўных кніг. На выстаўцы презентаваліся помнікі, якія захоўваюцца ў польскіх бібліятэках і музеях, галоўным чынам у самой Нацыянальнай бібліятэцы, але таксама ў Нацыянальным музеі, у Бібліятэцы Ягелонскага універсітэта, Бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве, Бібліятэцы Варшаўскага універсітэта і іншых.

Самая старая рукапісная кніга, якую можна было там убачыць, гэта балгарская *Минея четия* пачатку XI стагоддзя, якую знайшоў у 1832 годзе прафесар Віленскага універсітэта Міхал Баброўскі. Ад месца знаходкі — Супрасльскага манастыра — завуць яе *Супрасльскім кодэксам.* Гэтая адна з найстарэйшых кірылічных кніг у свеце ўражвае сваёй простай, яснай кампазіцыяй і сціплым аздабленнем. Інакш выглядае *Лаўрышаўскае евангелле* (пачатку XIV ст.), якое належала манастыру ў Лаўрышаве каля Навагрудка. Кніга багата здобленая ініцыяламі, застаўкамі, мініяцюрамі. На яе палях шмат даравальных запісаў літоўскіх князёў і магнатаў манастыру. *Лаўрышаўскае евангелле* захоўваецца ў Фондзе князёў Чартарыскіх Нацыянальнага музея ў Кракаве.

Першыя друкаваныя царкоўнаславянскія кнігі з'явіліся ў друкарні Швайпольта Фіёля ў Кракаве. На выстаўцы прэзентавалася *Триодь цветная* з 1491 года, якая яшчэ аздобленая на падабенства рукапісу. Фрагмент *Малой падарожнай кніжкі* Францішка Скарыны (Вільня, 1522) — *Акафистник* — сведчыць, што яе складальнік і выдавец карыстаўся ўзорамі заходнееўрапейскага кнігадрукавання. Нават паўтарыў ён дзве гравюры Міхаэля Вольгемута — хрост Ісуса Хрыста ў Іардане і Хрыстос-Пантакратар — якія былі змешчаны ў *Хроніцы свету* Гартмана Шэдэля. Гэта была распаўсюджаная практыка таго часу, што гравюры выкарыстоўваліся па некалькі разоў у розных выданнях.

Найбольш паказаных у Палацы Красінскіх экспанатаў паходзіць з украінскіх зямель паўднёва-ўсходняй Рэчы Паспалітай — так праваслаўных, як і уніяцкіх кніг, галоўным чынам, з XVII і XVIII стагоддзяў. У гэты час праяўляюцца яркія мастацкія індывідуальнасці партрэтыстаў, рысавальшчыкаў і афарміцеляў кніг, як хаця б Аляксандр і, звязаны творчасцю з Супраслю, Лявонцій Тарасевічы.

Вялікая выстаўка — на двух палацавых паверхах — багатых польскіх фондаў царкоўнаславянскіх рукапісных і друкаваных кніг магла даць наведвальніку неблагое ўяўленне пра кніжнае мастацтва культурнага круга Усходняй царквы, не толькі, зрэшты, з Рэчы Паспалітай, але і Маскоўшчыны, і паўднёвай Славяншчыны. Істотным яе дапаўненнем з'яўляецца абшырны каталог з неабходнай інфармацыяй пра кожны выставачны помнік, з заценкамі пра мастакоў і прыкладамі мастацтва (на жаль, толькі чорна-белымі), кароткім слоўнікам царкоўнаславянскіх тэрмінаў і падрабязнымі артыкуламі ўкладальнікаў выстаўкі пра графіку і аздабленне старацаркоўных кніг.

**М. В.**

*Sztuka iluminacji i grafiki cerkiewnej, Muzeum Narodowe, Warszawa, październik-listopad 1996.*

**Якія мы людзі**

# Лебедзянятка

Было лета. Над Віграмі паволі ўставаў парны ліпеньскі дзень. Разамлелыя целы першых загараючых ляніва перакочваліся з боку на бок. Часамі летнікі спаглядалі на нерухомую гладзь возера, на якой застылі чаўны з рыбакамі. Яшчэ ніхто не купаўся, бо вада раніцай была халаднаватая.

Возера толькі неспакушанаму чалавеку магло здавацца такім спакойным. Хто яго ведаў, уяўляў сабе, якое бурліць у ім жыццё, якая ідзе там бязлітасная барацьба за быт, за існаванне. Зводдаля відаць было, як рыбакі закідалі ад часу да часу свае вудачкі і выцягвалі маленькую рыбку, найчасцей плотку. Большыя экземпляры трапляліся рэдка: яны былі мацнейшыя і не лёгка ішлі на кручок, уцякалі ад яго, як ад заразы.

Раптам вочы назіральнікаў, як па загаду, накіраваліся ў бок вадзяных зараснікаў, адкуль выплыла сямейка лебедзяў і накіравалася на сярэдзіну возера. Маестатычна, быццам кароль і каралева, наперадзе плылі яны: лебедзь-бацька і лебядзіца-маці, а за імі — ідэальным шнурочкам — пяць штук малюсенькіх лебедзянятак. Здавалася, што яны нават не пасоўваюцца наперад, а нехта іх проста нарысаваў на вадзе. Ідэальная сямейка!

І раптам, праплываючы каля лодкі з рыбаком, адно з лебедзянятак паквапілася на чарвяка. Дурное яшчэ, не дадумалася, што за чарвяком быў кручок і ад яго цягнулася жылка рыбаковай вудачкі. Праглынула лебедзянятка кручок, зачапіўся ён у горле, а паўметровы кавалак жылкі сарваўся з вудачкі, цягнецца за лебедзянняткам...

Каб рыбак быў падцягнуў да сябе адразу тое малое і адчапіў сваю жылку, усё скончылася б яшчэ, можа, добра. Але што ж, калі сёння кожны думае толькі пра сябе. Хутчэй! Мо якраз добры экземпляр рыбы на кручок рыхтуецца... А за літасць ніхто не плаціць!

Цягнецца жылка за малым лебедзянняткам, у горле кручок агнём гарыць, адстае яно ад іншых. Кепска яму! І бацькі яго — лебедзь і лебядзіца — бачаць, што нешта тут не так. Не такое дзіця, не слабое і пакалечанае, уяўлялі яны сабе. **Іншае яно нейкае!** Падплылі да яго, пачалі дзяўбці, адганяць сваё малое, быццам чужое. А лебедзянятка баіцца, уцякае. Уцякае і зноў вяртаецца, ну, бо дзе ж бы было яму лепей, як не з роднымі бацькамі!

Пара лебедзяў гнала сваё дзіця аж да зараснікаў. А навошта ім такое! Адкінулі яго як непрыдатнае да жыцця, як нешта такое, што можа паграtimes; паграджаць астатнім дзецям. Ахвяравалі адно ў імя таго, каб чацвёра было здаровых. Бязлітасны натуральны адбор!

І паплыло беднае лебедзянятка ў свой куточак у трысняг. Яшчэ лічыла, што мо там, дзе яно нарадзілася і ўбачыла гэты свет, знойдзе ратунак і суцяшэнне ад бацькоўскай ласкі. Але, даплыўшы да „дому”, уздрыгнула, затрапятала крыламі і... сканала ў адзіноцтве.

* * *

Сярод звяроў існуе няўмольны прынцып, што **іншага адкідаюць**. Асабліва — калі ён слабы і недалужны. Часамі бацяны ў худы год (калі вывадак у іх вялікі) выкідаюць з гнязда найслабейшае бацянятка, каб маглы пракарміць астатніх.

А як яно ёсць сярод людзей? Тое самае! Варта ўспомніць хаця б „Маляванага птаха” Ежы Касінскага пра пагарджанае яўрэйскае дзіця, або хаця б і старажытную Спарту, дзе слабых, непрадуктыўных людзей — калек і старых — скідалі са скалы ў мора.

Ці ж мала ёсць у нас такіх бацькоў, якія „для святога спакою” аддаюць сваіх дзетак-інвалідаў на выхаванне іншым — дамам дзіцяці, прытулкам, манашкам, бо самі не могуць глядзець на сваё няшчасце...

Але бывае яшчэ горш. Гэта здараецца, напрыклад, тады, калі дзяўчына нараджае здаровае, прыгожае дзіцятка і, не хочучы нават глянуць на яго, на сваю крывінку, кажа лекару: „У дзіцячы дом!” А зрабіць аборт — гэта быў грэх.

**Ада Чачуга**

# Баль сеніёра з Веркай

Як на гэта я не гляну — я ж ужо так званы „сеніёр”. Нават само гэтае слова вымушае павагу і ўшанаванне, калі ўжо не шкадаванне чужога доўгага жыцця. Удалося мужыку не памерці да часу „сярэдняй краёвай”, вось які ён малайчына! Або шчасце меў, або хітра жыў, кажуць. Дажывіце, пазнаеце смак тае здабычы, якую ў мяне не адабраў ні вораг відомы, ні скрытны.

Найчасцей таго „сеніёра” бачаць як слабенькіх бабульку ці дзядульку з калочкам, у акулярах ссунутых на нос, лагодных і ветлівых, што гатовы прасіць прабачэння за тое, што яшчэ дыхаюць. Але бываюць і старыя злоснікі, якіх гнявіць тое, што іншыя — маладыя, а калі і немаладыя, то цешацца невядома чым — маленькай пенсіяй, кветачкай на ўчастку, сонейкам, задзірыстым праўнучкам або сяброўкай ці сябрам, такой жа бабуленцыяй або старэчам, учэпіста трымаючыміся таго, за што на старасці гадоў варта трымацца. Я, хоць немалады, вось выдатна адчуваю сябе ў маладой кампаніі, а таксама ў прысутнасці маіх аднагодкаў, якія маюць і ўмеюць цешыцца з чагосьці. А калі яшчэ і забавіцца любяць!..

Куды вось я выбраўся? На баль для адзінокіх. Знайшлося якраз недзе каля трыццаці з лішкам разнаполых пенсіянераў і рэнтыстаў. Сярод іх я адразу заўважыў паню пад шэсцьдзесят, маладжавую, у маладзёжнай кароценькай стрыжцы. Хоць мела досыць пакамечаную даволі спраўную шыйку, насіла ж дэкальтэ, якое мне заўсёды падабаецца. Ды і ў якіх была абціснутых на круглай попцы джынсах! Ну, трошачкі як „ззаду ліцэй, ад фронту — музей”, але нічога! Да таго ж танцавала, што го-го! Усе дзядзькі мне зайздросцілі, а цёткі паскрыпвалі снежна-белымі зубкамі. Натанцаваліся мы ўволю амаль без слова, потым селі за столікам. Я першы раз назваў сваё імя. Мая дама сербанула ліманад і глыбока ўздыхнула:

— Курчэ, запаліўобы се, цо не? Як, повядаш пан, маш на іме?

— Вандал.

— Можэ быць. А мне можэш мувіць... Веська. Альбо Вэ-э-э-эра.

Вырачыў я вочы: гэта ж Верка з суседняе вёскі!!! Васілішына! Калі я збіраўся ў ліцэй ісці, яна ў адным сарафанчыку па вуліцы бегала за жалезным колам!

— То ж ты Верка з Н.! Вой, як ты добра трымаешся, ліха на цябе няма! Аж шкада, што я такі ўжо стары...

— Вандал, сціхні! — зашыпела Верка. — Праўда, няма чаго скрываць, ты — стары пярдун! Мне маладзейшыя падабаюцца. Не пазнаць цябе, у такі файны касцюм убіў свой шкілет! Я вось пайду падмаляваца, не чакай мяне тут. Іду на зрыў!

Прыйшлося мне заняцца паняй Схаластыкай з-пад Саколкі, былой настаўніцай. Пенсія ў яе, праўда, невялікая, так жа як і яе вочы ды грудная клетка, але танцуе яна ў такт.

**Вандал Арлянскі**

# Што пасееш — тое пажнеш

На пачатку 60-х гадоў наш дубіцкі бацюшка Іаан Блізнюк спраўляў вяселле сваёй дачцэ, якая выходзіла замуж за хлопца з Белавежы. У нядзелю, першы дзень гэтага ўрачыстага дня, госці маладое селі за сталы, выпілі, закусілі, паспявалі і культурна разышліся. Вечарэла. У вясельным доме чакалі маладога і ягоных гасцей і, калі тыя прыехалі, усе хлынулі ў царкву глядзець на вянчанне маладой, прыгожай пары. Пад канец вянчання нехта з хатніх вярнуўся і заглянуў у каморку, дзе трымалі м.інш. гарэлку на вясельны стол — цэлую скрынку. А там па той скрынцы і след прапаў; нехта ўкраў. Як жа тут частаваць далёкіх гасцей без гарэлкі? Гэта пытанне азадачыла ўсіх. І дзе тут купіць гарэлку ў нядзелю позним вечарам; у дубіцкай краме працавала прадаўшчыца здалёк... Выхад, аднак, знайшоўся. Мясцовы дыякан Аляксей Герасімюк запрог каня і паехаў у Карыцкі, дзе крама з гарэлкай была ў прыватнай хаце. Купіў што трэба і хуценька вярнуўся, акурат упору, бо госці яшчэ не пазаходзілі за сталы.

Ды і на пытанне, хто ўкраў гарэлку, хутка знайшоўся адказ, бо людзі, хаця спачатку маўчалі, але пазней давай гаварыць, што бачылі тых зладзеяў, якія неслі скрынку. Аказаліся імі ярыя безбожнікі і камуністы. Бацюшка сказаў, што судзіцца з імі не будзе, няхай іх Бог судзіць. І ў нядоўгім часе тыя нягоднікі паўміралі, а хаваў іх бацюшка, толькі ўжо не Блізнюк, які да таго часу перабраўся ў Гайнаўку, а новы дубіцкі настаяцель.

**Мікалай Панфілюк**

# Таямніца старой капліцы

У Падбеллі, непадалёк царквы, зараз пры дарозе ў Дубяжын, стаяць руіны мураванага будынка. Мясцовыя людзі называюць гэтае месца часоўняй (капліцай). Адкуль такая назва, цяжка сказаць.

Неаднойчы я чуў ад знаёмых дубяжынцаў, што ў тым месцы былі пахаваны астанкі пана, уладальніка даўнейшай маёмасці.

Ідучы ў хату 91-гадовай Ярыны Ігнацюк, жыхаркі вёскі Дубяжын, каб распытаць яе пра „бежанства”, мне і ў думцы не мільганула, што крану кавалак таямніцы падбеленскай старой капліцы.

— А ты хто будзеш? — кінула ў мой бок старэча, пераступаючы парог невялічкай кухні.

— Не памятаеце, я з кінаперасоўкай ездзіў. Жонка мая з Дубяжына...

— Сцёпаў зяць, значыцца? — перапытала бабулька. — Таго, ад Івана Вялікага?..

Цесцевага бацьку ў Дубяжыне называлі Іванам Вялікім.

— Гэтага самага...

— А я думала, што ты хлапец Вольгі Мікалаевай... І зараз прыбавіла: — Дык чаго ж табе ад мяне патрэба?

— Хачу, каб вы пра мінулае расказалі. У „Ніву” напішу.

— Я ўжо для тых з Варшавы расказвала, з тэлебачання, ці адкуль яны там...

— Гэта будзе ў беларускай газеце. Мо нават у кніжцы...

— А мне за тое нічога не будзе?..

Калі я супакоіў сваю субяседніцу, што ёй нічога не пагражае, яна так пачала:

— Гэтыя землі належалі даўней пану Жаўтухіну. У яго ўладанні знаходзілася 600 гектараў ворнай зямлі і 300 гектараў лесу. Ён меў сына і дачку. Калі сын загінуў на вайне, пан Жаўтухін у знак ушанавання яго памяці пабудаваў тут царкву. Калі гэта было, не ведаю. Памятаю толькі, што ў 1912 годзе частка царквы ўжо стаяла. У гэтым жа годзе прыхаджане нанялі майстра з Елянкі, Янку Гвоздзева. Знаток ён быў вядомы ў сваім рамясле на ўсю ваколіцу. Супольна з чатырма мясцовымі цеслярамі пачалі разбудоўваць нашу царкву...

Па нейкім часе пан Жаўтухін пабудаваў часоўню. Калі памёр, яго палажылі ў жалезную труну і пахавалі ў часоўні. У той жа часоўні былі пахаваны астанкі няні, апякункі ягоных дзяцей...

Дачка пана выйшла замуж. Адкуль яе муж быў і што з імі далей сталася, не ведаю. Жонка Жаўтухіна жыла сто гадоў. Я сама яе даглядала. Памятаю, што ў апошнія дні свайго жыцця хацела, каб яе над раку вадзілі. А мы баяліся, каб яна ў рэчцы не ўтапілася, таму ні на крок ад яе не адыходзілі.

Пасля смерці пана яго маёмасць арандаваў яўрэй Шлёма. У яго былі два сыны і дачка. Адзін сын упраўляў маёнткам у Рыгораўцах, а другі ў Кнарыдах.

Шлёма з сынамі арандаваў маёнткамі пана да вайны. Як прыйшлі рускія, ніхто не ведае, што пазней з імі сталася. Рускія хацелі разбурыць часоўню ў Падбеллі. Не ўдалося. Забралі тады астанкі пана Жаўтухіна, няні і яго жонкі і перавезлі на могільнік у Мокрае. Пахавалі каля рова на ўскраіне могільніка. І зараз яны там пакояцца. Людзі на магіле паставілі жалезны крыж. Апякуюцца магілай.

Вось што мне расказала бабулька Ярына Ігнацюк з Дубяжына. Запісаныя мною ўспаміны гэта толькі фрагмент усёй таямніцы старой капліцы падбеленскай царквы і сям'і пана Жаўтухіна. А мо нехта са старажылаў навакольных вёсак больш ведае? Напішыце ў „Ніву” паважаныя чытачы. Усім пэўна будзе цікава.

**Уладзімір Сідарук**

P.S. Бабуля Ярына Ігнацюк карыстаецца яшчэ нядрэнным здароўем. Дачакалася 22 унукаў і 32 праўнукаў. Незадоўга з'явіцца і 33 праўнук. Пажадайма бабулі моцнага здароўя і многіх гадоў жыцця на добрую славу!

# Позірк у мінулае

**14 студзеня**

1235 г. — памёр Сава Няманіч, арганізатар культурнага і рэлігійнага жыцця сербаў, заснавальнік Сербскай аўтакефальнай царквы ў 1219 г. Манахам стаў у маладыя гады, падзвіжнічаў у заснаваным яго бацькам — вялікім жупанам Сцяфанам, які пасля пострыгу прыняў імя Сімяон — манастыры Хіландар на Афоне, а пасля ў Студзеніцы ў Сербіі. Напісаў многа багаслоўскіх прац.

**15 студзеня**

1833 г. — памёр Серафім Сароўскі, святы Рускай праваслаўнай царквы. Нарадзіўся ў 1759 г. у Курску. Ва ўзросце 17 гадоў падаўся ў Кіева-Пячэрскую лаўру, а пасля ў Сароўскую пустэльню (Тамбоўская губ.), дзе ў 1793 г. стаў іераманахам. Харчаваўся толькі хлебам з вадою, а ў серады і пятніцы зусім не еў. Аднойчы тысячу сутак маліўся ён на камені. Келля яго была адкрытая для наведвальнікаў; бывала, што прыходзіла іх да пяці тысяч. Кананізаваны ў 1903 г.

**17 студзеня**

У гэты дзень адзначаецца памяць аднаго з арганізатараў манаства, св. Антонія Вялікага. Нарадзіўся ён у 251 г. у Егіпце ў багатай сям'і. Рана страціў бацькоў і стаў наследнікам іхняга багацця. У жыцці яго расказваецца, што аднойчы ішоў ён у храм і па дарозе думаў пра апосталаў, якія падаліся за Хрыстом, пакінуўшы ўсё сваё багацце. Увайшоўшы ў храм, пачуў словы Евангелля ад Матфея, каб, дзеля багацця ў нябёсах, зямное багацце раздаць бедным, — быццам скіраваныя да яго. Ён і раздаў тую сваю маёмасць бедным, малодшую сястру аддаў пад апеку добрых людзей, а сам падаўся ў пустыню, дзе і правёў рэшту жыцця. Да яго далучаліся паслядоўнікі і ён, уладкаваўшы іх, падаваўся на новыя месцы. Памёр у 356 г.

1468 г. — памёр Скандэрбег (Георг Кастрыёці), нацыянальны герой Албаніі, які кіраваў змаганнем албанцаў супраць турэцкага нашэсця. У 1443 г. узначаліў народнае паўстанне, вынікам якога было вызваленне часці Албаніі з цэнтрам у горадзе Круя. Аб'яднаўшы сілы албанцаў, пасняхова адбіваў атакі туркаў у 1444—1467 гг.

**18 студзеня**

У гэты дзень адзначаецца памяць аднаго з айцоў Царквы Кірыла Александрыйскага. Кірыл спрыяў развіццю манаства і змагаўся супраць царкоўных ерасей, асабліва супраць несцерыянства. Багаслоўскае вучэнне Кірыла стала адной з падвалін Праваслаўнай царквы. Памёр у 444 г.

1701 г. — курфюрст Фрыдрых III Брандэнбургскі каранаваўся ў Кёнігсбергу на караля Прусіі, прыняўшы імя Фрыдрыха I і заснаваўшы Прускае каралеўства. Новая дзяржава вымушана была пашыраць свае граніцы з дапамогай ружжа. Дзеля гэтага патрэбная была немалая армія і на яе ўтрыманне насельніцтва краіны плаціла немалыя налогі. Трэба было і на ўсім эканоміць. Новы кароль вядомы быў перад усім захапленнем салдацтвам і скупасцю. Скупасць тая пераходзіла ў шчодрасць пры ваенных расходах. На куплю аднаго, самага высокага салдата не пашкадаваў ён 9 тыс. талераў, што пераўвышала тадышні гадавы бюджэт Кёнігсбергскага універсітэта. Пра вучоных кароль адзываўся крайне зняважліва; напрыклад Лейбніц, на яго думку, непрыгодны быў нават для таго, каб стаяць на варце. Пра сябе затое гаварыў: „Мы пан і кароль і можам рабіць усё, што захочам".

**(Ш)**

# *Парнасік*

## Пажаданні

Пажаданні ў Новым годзе
Калектыву „Нівы" шлю,
Каб шчасліва пражывалі
І здаровы ўсе былі.
Сваіх дзетак даглядайце,
Каб на славу вам раслі.
Пра ўнукаў не забывайце,
Каб здаровымі былі.
У сямейцы вашай роднай,
Радасць каб заўжды была,
Каб вы гора не спазналі —
Я таго жадаю вам!
Радасць мецьвам на душы,
Жыццём шчыра радавацца,
З жонкаю ці мужыком
Ніколі не спрачацца.

**Мікалай Лук'янюк**

## Мароз — мастак

Мароз — дасканалы мастак,
Ён наш блізкі сваяк.
Калі прыліпне да цела,
Ды так, каб аж забалела.
Мо ён нас так гартуе,
А нам здаецца, што злуе.
Уцякаем ад яго найхутчэй
Да печкі, дзе многа лягчэй.
На вокнах рысуе ўзоры —
Мо вучыць людзей ён пакоры?
Каб не былі такія халодныя, як ён,
І ласкай змяніць наш праклён.
На дрэвах, кустах, галінках
Мароз пакідае ільдзінкі;
Яны на сонцы прыгожа блішчаць...
І як жа на мароз нам злаваць?
Не выпадае, і не прагонім яго ніяк,
Таму, што ён верны сваяк.
І любіць, хто шчыра працуе,
Запасся дровамі і добра плануе.
Мужных мароз паважае,
Іх усіх падымае!
Не быць гультаём, разагрэцца,
Узяцца за працу, і песня пальецца.
Паўночнае ззянне — марозны цуд;
Не зробіш, чалавеча, яго, хаця
і мудр.
Снег на марозе іскрыць,
Нам трэба верна з прыродай жыць.
Мароз — ён мастак, чарадзей;
Цела, мой друг, разагрэй!
На ніве роднай закоцім рукавы,
Пераскочым перашкоды і равы.

**Мікалай Панфілюк**

## Крынічанька

У дуброве, у зялёнай,
там крынічанька была,
а да тае крынічэнькі
вузка сцежачка вяла.
А ў тае крынічэнькі
была чыстая вада,
часта воду набірала
дзяўчынонька малада.
Капаў Янка крынічэньку,
ціха песеньку спяваў
і да тае крынічэнькі
вузку сцежачку таптаў.
Дзеўка па ваду хадзіла,
з Яськам сустракалася,
цераз гэтую крыніцу,
ў Яська закахалася.
Я таго яшчэ не знала,
я — дзяўчына малада.
Усё гэта нарабіла
із крынічанькі вада.

**Мікалай Пучко**

## Барацьба

Калі свет цемра акрывае,
Робіцца так, як на пачатку свету.
Але калі яна ёсць у зямных уладарах,
Трэба надзець нам зброю Божую,
Каб астацца перад д'ябальскай
прорвай.
Не трэба бой весці з крывёю і целам,
Але з тою надземнай уладай,
Што цемрай ахапляе зямлю,
З духамі зла ў акрузе нябеснай.
Станьма, апаясаўшы сябе праўдай,
Узброеныя ў справядлівасць,
Моцна абутыя ў праведнасць,
Верачы, што тады зможам пагасіць
Вогненныя пляўкі і кулі злога,
З мячом Духа — Божым Словам.
Пільнымі быць належыцца,
Заносіць удзень і ноччу малітву
Усявышняму Тварцу, Збавіцелю
нашаму.

**Іда Кавалевіч**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніліся мне такія сны.

1. Нібы мой бацька ляжыць, раз'ехаўны, каля дома нашых суседзяў.
2. Нехта паставіў чамадан з рэчамі брата на гной, а брата тут няма.
3. Наш мясцовы лекар мае вялікую бараду светла-жоўтага колеру. І вопратка яго светлая. У сапраўднасці ў яго няма ніякай барады і ходзіць ён пераважна ў цёмнай вопратцы.
4. Сустрэла я свайго суседа на кухні другой суседкі (яна жыве на другім баку ад маёй хаты). Але бачу, што яны пайшлі ў пакой піць гарэлку. Я знервавалася і выйшла адтуль. Пайшла дадому.

Што гэтыя сны могуць абазначаць?

**Марыя**

Марыя! Можа адразу пачну ад сну нумар тры, бо ён добры. Прадвяшчае вашаму лекару славу і пашану ад людзей, ды і наогул добрае. Аб гэтым сведчыць яго вялікая барада і светлая вопратка, хаця ў жыцці ён носіць у асноўным цёмную.

Першы твой сон (пра раз'ехана бацьку) абазначае, што падсцерагае цябе вялікая небяспека. Тут адными клопатамі не абыдзецца.

Другі сон, дзе рэчы брата нехта паставіў на гной, прадвяшчаюць ці табе, ці брату вялікі смурод, непрыемнасць.

Чацвёрты сон гаворыць за тое, што ёсць у цябе дурныя, нядобразычлівыя сябры, якія робяць табе шмат прыкрасцей у жыцці. Аб гэтым сведчыць найбольш тая гарэлка, якую яны пайшлі піць у пакой, не звяртаючы ўвагі на цябе.

Падсумоўваючы твае сны, хачу папярэдзіць цябе, каб ты асцерагалася небяспекі, якая можа, на жаль, прыйсці ад кепскіх сяброў, суседзяў.

**Астрон**

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

# Шаноўны галоўны рэдактар „Нівы"!

Карыстаючыся ветлівасцю рэдакцыі, хачу праз Ваша пасрэдніцтва перадаць усім чытачам „Нівы" святочныя пажаданні.

Надыходзячыя святы з'яўляюцца ў хрысціянскім свеце нагодай для глыбокай рэфлексіі над праміннанем і сваімі паводзінамі. У гэтыя зімовыя дні вяртаюся думкамі да тых гадоў, якія правёў я на Бельшчыне. Перадаю сардэчныя прывітанні ўсім жыхарам Відава, маім сябрам, а асабліва Колі Калішэвічу — каб дзень Раждждаства Хрыстова правялі прыгожа і слаўна.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. вялікае цёмнае воблака, 4. слова, якое абазначае новае панядзе, 6. не арыгінал, 7. Франц, аўстрыйскі пісьменнік (1883-1924), аўтар „Замка", 9. магутнасць, сіла, 11. не атака, 12. аб'ява, якая прыцягвае ўвагу, 13. адна з антылоп, 15. калектыў з васьмі выканаўцаў, 17. горад у Японіі, 18. сістэма поглядаў, асноўная думка, 19. фруктовая гарэлка паўднёвых славян.

**Вертыкальна:** 1. аўтар „Дэкамерона", 2. вадзяны вал, 3. газ, злучэнне азоту з вадародам, 4. маленькі каўпачок на палец, 5. сукупнасць міфаў, 6. ядавітая гадзюка, 8. войска, 9. чараўнік, жрэц, 10. амерыканская разведка, 14. разьба звонку або ўнутры прадмета, 16. мужчынскі голас, 17. народ.




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 н-ра:**

**Гарызантальна:** Пруст, няўдачнік, Зямля, Артэк, бег, прасека, акуліст, сад, азіят, Пенза, анталогія, Мідас.

**Вертыкальна:** Купалле, поўня, танга, намесніца, Каталонія, Зорка, коска, бас, гад, асалода, татэм, Пегас.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.



„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Ці ты, ці дождж?**

*Ты і я*
*і дождж...*
*Салавей вясною*
*праспявае тваё імя...*

**Вераніка Леанюк**

Ты і я,
І дождж.
Ты і я,
І хвошч.
Ты і я,
І смех.
Ты і я,
І... грэх...
А пасля салавей
Тваё імя пяяў,
Больш вясною мяне
Ты ужо не чакаў.
Толькі рэха нясло
Тваё імя у хвошч,
Не магу зразумець:
Гэта ты быў,
Ці дождж?..

**Сяргей Чыгрын**

# Куточак філатэліста




**Беларусь:** Менскі Дом друку — паведамляе „Голас Радзімы" (н-р 51 ад 19 снежня 1996 г.) — абмежаваным тыражом выпусціў марку з адлюстраваннем прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. На Галоўпаштамце беларускай сталіцы 6 снежня адбылося гашэнне новай маркі.

*На здымку: фрагмент адкрыткі з новай маркай.*

* * *

**Польшча:** Падчас юбілейнай сустрэчы ў Катавіцах — піша „Палітыка" (н-р 52 ад 28 снежня 1996 г.) — двое дзеячаў Руху адбудовы Польшчы (РОП) — Марыюш Вельгус і Яраслаў Будны паведамілі, што „ў паштовых установах выключаюцца з абароту маркі з выявай былога прэзідэнта Рэспублікі Польшча Леха Валэнсы, бо людзі плявалі не на гэты бок, што трэба".

# Ніўка

*Мал. В. Ключніка*




## Сентэнцыі

Прыгажосць, якую ўспрымаеш душою — бясконцая.

* * *

Шэрасць какетнічае залатой шыльдай.

* * *

Калі пашукаеш, дык і ў вадзе знойдзеш шчыліну.

* * *

Гнуткі язык кусае мацней, чым цвёрды зуб.

* * *

Калі ў цябе свая думка, гэта яшчэ не значыць, што займеў ты і праўду.

* * *

Толькі іскраў, колькі і крэсіва.

**Барыс Руско**

## Скажам праўду

— Як табе не сорамна так позна вяртацца дадому! — злуецца маці, адчыняючы дачцэ дзверы. — Я ў тваім узросце сядзела дома!

— Вядома, мама, што ты ў той час дома сядзела. Мне тады было ўжо паўгода!

***

У студэнцкім доме — імпрэза. Бяседнікі прапануюць тост:

— За Эдзіка, каб здаў!

У пэўны момант адчыняюцца дзверы і ўбягае іх калега.

— Ну, што, Эдзік, здаў?!

— Здаў, толькі аднае не ўзялі, бо была з адбітым горлышкам.

***

— П-п-па-ан праф-ф-фесар, ці п'яны студэнт можа здаць у вас экзамен?

— Ну, калі п'яны студэнт добра падрыхтаваны...

— Але, падрыхтаваны ён, вядома! Хлопцы, уносьце Міколу!

***

— Сэм, ці ў лімона ёсць ножкі?

— Не, ваша лордаўская міласць!

— Халера! Я зноў выціснуў у гарбату канарэйку!

**(лук)**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Трое малышоў хваляцца, чый дзедка старэйшы:

— Мой такі стары, — гаворыць першы, — што цэлы ў маршчынах.

— Гэта глупства, — адзываецца другі. — Мой такі стары, што зусім сівенькі.

— А мой быў такі стары, — кажа трэці, — што татка мусіў яго застрэліць.

* * *

Удава да лекара:

— Скажыце, якія былі апошнія словы майго мужа?

— Ён паспеў яшчэ вышаптаць: „Дарагая, заплаці лекару столькі, колькі захоча; ён так цудоўна апекаваўся мною да канца".

* * *

Прыходзіць старэнькая бабулька да лекара:

— Мне, пан доктар, нічога не баліць.

— Гэта вельмі дрэнна. У вашым узросце, калі нічога не баліць, трэба разглядацца за далакопам.

* * *

Прыходзіць дзедка да лекара і наракае:

— Усе мае сябры хваляцца, што маюць яшчэ сексуальныя прыгоды; а я ўжо не магу. Што рабіць?

— Пачніце і вы хваліцца.

* * *

Дзедка павучае ўнука:

— Помні: калі хочаш быць добрым чалавекам, мусіш быць паслядоўным і асцярожным.

— Што гэта значыць — паслядоўны?

— Каб стрымліваў тое, што абяцаў.

— А асцярожны?

— Каб ніколі нічога не абяцаў.

* * *

Дзедка-жартаўнік пытае свайго ўнучка:

— Адгадай, што ў мяне ў левай руцэ.

— Цукерак.

— Не; гадай далей.

— Арэх.

— Зусім не. Рэўматызм!!!

* * *

Гутараць два журналісты:

— Шкада, што Валэнсу не паставілі каралём...

— Чаму?

— Знаеш, колькі нам можна было б зарабіць, пішучы пра наследнікаў трона.

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, ратуй мяне! Паміраю ад кахання. А ўсё здарылася так неспадзявана. Я ішла па школьным калідоры, зусім пустым, бо ўжо празвінеў званок, а да мяне ззаду падышоў наш настаўнік фізкультуры. Абняў мяне правай рукой і пачаў дамаўляцца са мной наконт гадзін трэніроўкі.

Мяне быццам токам прашыла. Праўду кажучы, гэты малады настаўнік падабаўся ўсім маім сяброўкам. Даслоўна хадзілі яны за ім чарадою. А тут такое! Абняў мяне і прытуліў да сябе!

Цэлую ноч я не магла спаць. Круцілася-вярцелася, а ў думках быў толькі ён. Як ачмурэлая, прыйшла я на другі дзень у школу. Не зрабіла, вядома, урокаў. Ну, і двоечка была гатовая. Ат, што там двойка! Важна, што ён мяне кахае! Абняў жа і прытуліў! А каго абнімаў сярод маіх сябровак? Ніводная ж пра гэта не расказвала...

Пачала цяпер і я вадзіць за ім вачыма. Старалася быць там, дзе быў ён. Пачала надта старанна трэніравацца па баскетболу, хаця я і раней рабіла гэта даволі добра. А ўсё — каб быць бліжэй яго. Каб чуць яго голас, бачыць блакіт яго вачэй.

Дарагое Сэрцайка, я, хаця ўжо ў восьмым класе, то па-сапраўднаму закахалася першы раз. Каб ты яго бачыла, які прыгожы! І не стары: яму гадоў дваццаць сем ці дваццаць восем, казалі дзяўчаты. Ну, і што мне цяпер рабіць, калі ён больш не звяртае на мяне асаблівай увагі?.. Адносіцца да мяне зусім звычайна, як і да іншых дзяўчат, спакойна і без эмоцый — як настаўнік да вучаніцы. А я ж думала...

Не магу спаць, не магу жыць, не магу вучыцца. У вачах стаіць толькі ён. Мару пра яго, сную розныя планы. Можа, ён не можа паказаць пры ўсіх, што мяне кахае, і таму хаваецца са сваімі пачуццямі да мяне. Усё ж гэта не абыякі хлопец з вуліцы, а настаўнік! Я ведаю, што яму нельга гуляць з вучаніцамі. Але ці ж мала здараецца так, што прафесар жэніцца са студэнткай, а настаўнік — з вучаніцай? Мама мая, якая чытае „Сардэчныя тайны", расказвала мне калісьці, што нават здарылася так, што вучань ажаніўся з настаўніцай і мелі яны дзіця.

Можаш сабе ўявіць, як мне было крыўдна, калі ён на вечары для настаўнікаў спяваў і іграў на гітары. А тыя настаўніцы таксама ліпнуць да яго, быццам бы ў іх сваіх мужоў не было. У мяне кошкі скрабуць па сэрцы, калі бачу, як міла ён гаворыць са сваімі сяброўкамі-аднагодкамі. А мы — як нейкія спартыўныя прылады для трэніровак.

Даражэнькае! Пішу табе і плачу. Што рабіць, як здабыць гэтага хлопца? Ой, пардон, ён ужо быў жанаты, дзіця таксама ёсць. Але — разведзены, значыць, свабодны. Дык ёсць жа надзея на тое, што можа ў будучыні быць маім мужам. Іншага я не ўяўляю. Свету за ім не бачу. Як здабыць яго, парай, ты маеш, пэўна, у гэтых справах больш вопыт.

**Ёлька**

Ой, Ёлька, Ёлька! Ну, і навошта табе настаўнік?! Ці ж мала хлопцаў, сяброў тваіх навокал? На гэтага настаўніка, скажу табе адкрыта, разлічваць не прыходзіцца. Ну, што здарылася, што палажыў сваю правую руку на тваё плячо? Зрабіў гэта так, як робяць з дзіцём: абнімаюць яго, прыцiскаюць. А мо проста пажартаваў, прыціснуўшы цябе мацней. А ты ўжо зараз гаворыш пра каханне... Іншая справа, што мог не падумаць ён, якое ўражанне зробіць гэты жэст на цябе. Не прадчуваў мо і не хацеў, каб выйшла з гэтага нейкая гісторыя, а ты... закахалася!

Я думаю, што давядзецца табе неяк гэту справу перажыць. За настаўніка **можна** выйсці замуж, але **лепш не трэба!** Лепш не ўскладняць сабе жыцця, выходзячы за чалавека, шмат старэйшага, разведзенага і з дзіцём. Вядома, сэрцу не загадаеш, але паспрабуй глянуць на справу цвяроза. Табе ж ужо мо якіхсьці пятнаццаць ёсць.

А, зрэшты, будзеш яму накідацца са сваім каханнем, дык можа быць яшчэ горш. Думаю, што найлепш было б захаваць спакой і заглядаць ад часу да часу ў падручнік.

**Сэрцайка**